● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

21 сакавіка 1996 г.
чацвер, № № 76 — 77
(22879 — 22880)

# ЗВЯЗДА



## РОЗГАЛАС

### КРЫВАВАЯ ТРАГЕДЫЯ Ў СМАРГОНІ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў прэс-службе Гродзенскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў, 19 сакавіка ў Смаргоні пралілася кроў. Праследуючы злачынцу, быў смяротна паранены слесар «Смаргоньміжрайгаза» Станіслаў Кажарновіч, бацька дваіх малалетніх дзяцей, якому 26 красавіка споўнілася б 30 гадоў.**

У 17.45 на вуліцы Маладзёжнай жыхар г. Маладзечна непрацуючы Валерый Сушчэнка, 1964 года нараджэння, пагражаючы 45-гадовай жанчыне зброяй, адабраў у яе залаты заручальны пярсцёнак, завушніцы і 340 тысяч рублёў, пасля чаго кінуўся ўцякаць на тэрыторыю тэлетранслятара. «Дапамажыце!» — звярнулася жанчына да маладых мужчын, якія аказаліся непадалёку. Гэта былі рабочыя «Смаргоньміжрайгаза» Станіслаў Кажарновіч, Віктар Капцюг, Аляксандр Шурпо і Эдуард Тамашэвіч. Яны пачалі праследаваць рабаўніка, той адкрыў агонь, паранiўшы ў жывот Станіслава. Але яго таварышы злачынцу затрымалі. Пры гэтым яшчэ адна куля трапіла ў левую кісць Віктару Капцюгу, былому «афганцу». Неўзабаве на месца здарэння прыехала міліцыя. У злачынца забралі два аб'яднаныя разам абрэзы паляўнічых стрэльбаў і патроны, ён дастаўлены куды трэба. Жанчыне вярнулі яе каштоўнасці, а Станіслава пахаваюць. «На яго месцы мог быць кожны з нас», — гавораць у Смаргонскім райаддзеле міліцыі.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

### ЗА НОВЫЯ ГРОШЫ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ

**Як вядома, з 25 сакавіка ўводзяцца ў абарачэнне новыя стодоларавыя купюры. У сувязі з тым, што банкі нясуць затраты на транспарціроўку і праверку сапраўднасці купюр, за абмен банкнотаў старога ўзору будуць спаганяцца камісійныя.**

Паводле слоў віцэ-прэзідэнта Асацыяцыі камерцыйных банкаў Міхаіла Кавалёва, памер камісійных пакуль не ўстаноўлены. Аднак, мяркуе спадар Кавалёў, наўрад ці ён перавысіць памер збору, зацверджанага Цэнтрабанкам Расіі, — 2 працэнты з адной купюры.

Магчыма, што беларускія банкі будуць вызначаць гэты працэнт па ўласнаму меркаванню, але не перавысяць абмежаванні, якія, хутчэй за ўсё, будуць устаноўлены.

Верагодна, што ў Беларусі, як і ў Расіі, банкі прапануюць абмен старых стодоларавых купюр шляхам укладу на дэпазіт на непрацяглы тэрмін, напрыклад, да трох месяцаў. Кліент зможа атрымаць свой уклад па заканчэнні тэрміну новымі банкнотамі, толькі працэнтная стаўка пры гэтым будзе крыху меншая.

Віцэ-прэзідэнт асацыяцыі адзначыў, што неабходнасць збору за абмен стодоларавых купюр дыктуецца і затратамі на навучанне валютных касіраў па вызначэнню сапраўднасці банкнотаў. Купюры ўводзяцца ў абарачэнне з 25-га сакавіка, а ў Маскве валютчыкі ўжо прапануюць новыя сотні.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

### СУМЕСНАЕ ВУЧЭННЕ АБАРОНЦАЎ НЕБА

**Сумеснае камандна-штабное вучэнне сіл і сродкаў проціпаветранай абароны Расіі і Беларусі пачалося 18 сакавіка.**

Яно арганізавана ў адпаведнасці з «Планам правядзення сумесных мерапрыемстваў у аб'яднанай сістэме ППА на 1996 год». На вучэнні, якое закончыцца 23 сакавіка, задзейнічаны аператыўныя групы войскаў дзвюх краін.

**Прэс-служба Міністэрства абароны — БЕЛТА.**

## ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК

# НА СЕСІІ АБЫШЛОСЯ БЕЗ СЕНСАЦЫЙ

**Згодна з папярэдне зацверджаным графікам работы ўчора зноў працягнуліся пленарныя пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.**

У «Розным» выступілі сем чалавек. Праўда, гэты раздзел аказаўся крыху аднабаковым, паколькі чатыры дэпутаты закранулі адну і тую ж тэму. Спадары Шчукін, Дзямідаў, Пугачоў і Касцян зачыталі паведамленні аб мітынгах, якія былі арганізаваны і праведзены прыхільнікамі ідэі аднаўлення Савецкага Саюза і аб'яднання з Расіяй. Як вядома, гэтыя акцыі адбыліся ў буйных гарадах краіны 17 сакавіка — у дзень пятай гадавіны правядзення рэферэндуму аб захаванні СССР. Дарэчы, учора перад пачаткам пасяджэння сесіі на плошчы Незалежнасці зноў сабраліся некалькі дзесяткаў чалавек з чырвонымі сцягамі. З парламенцкай трыбуны гучалі абвінавачанні ў адрас тых, хто «развалiў Саюз». Адначасова чацвёра выступоўцаў ухвалілі рашэнне Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі аб дэнансацыі белавежскіх пагадненняў і заклікалі Вярхоўны Савет Беларусі прыняць аналагічнае рашэнне. Адзіным дэпутатам, які выступіў з рэзкай крытыкай рашэння расійскіх калег і імкнення камуністычнай фракцыі беларускага парламента, стаў Андрэй Клімаў.

Выступленне дэпутата Скока мела больш практычны і надзённы характар. Ён узняў праблему прыняцця Дзяржаўнага бюджэту на 1996 год і жыллёвую праблему.

Не абышлі дэпутаты і нядаўнія кадравыя змены ў кіраўніцтве парламенцкай «Народной газеты». Валерый Новак заявіў, што да гэтай праблемы трэба падысці ўважліва і сур'ёзна. Ён прапанаваў згодна са статутам рэдакцыі і Законам аб друку выбраць рэдактара газеты. Выказваючы думку сацыял-дэмакратычнай фракцыі «Саюз працы», сп. Новак прапанаваў пакінуць на пасадзе М. Галко. Тым не менш і гэта тэма не атрымала працягу, хаця некаторыя дэпутаты патрабавалі вырашыць пытанне неадкладна. На гэта намеснік старшыні камісіі, якая курыруе СМІ, Уладзімір Нісцюк зазначыў, што ў камісіі існуе пакуль шмат нявырашаных пытанняў, таму яна не можа сёння пачаць разгляд пытання аб галоўным рэдактару «Народной газеты». Мяркуецца, што камісія прапануе дэпутатам законным чынам вызваліць І. Сярэдзіча, які, як вядома, год таму быў зняты ўказам Прэзідэнта і толькі пасля прыступіць да выбрання кіраўніка выдання.

На ранішнім пасяджэнні дэпутацкі корпус прыняў пастанову «Аб Палажэнні аб парадку выезду за мяжу дэлегацый (груп) і асобных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь». Па гэтым пытанні далажыў старшыня Камісіі па міжнародных справах Пётр Краўчанка. Пасля на абмеркаванне парламентарыяў былі вынесены папраўкі і дапаўненні ў Закон «Аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета дэпутатаў Рэспублікі Беларусь». Каля дваццаці паправак, якія былі ўнесены Прэзідэнтам і Камісіяй па дзяржаўнаму будаўніцтву і самакіраванню, былі прыняты літаральна за паўтары гадзіны без асаблівых спрэчак.

Некаторыя рознагалоссі выклікала толькі прапанова аб скасаванні недатыкальнасці дэпутатаў мясцовых Саветаў.

Наступным пунктам парадку дня сесіі стала абмеркаванне паправак у Закон «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь». Як і папярэдні закон, гэты праект быў абмеркаваны гэтак жа арганізавана і хутка.

На вячэрнім пасяджэнні дэпутацкі корпус вярнуўся да разгляду ўжо ў другім чытанні законапраекта аб Дзяржаўным бюджэце на 1996 год.

Але перад гэтым выступіў лідэр фракцыі камуністаў Сяргей Калякін і ад імя 85 дэпутатаў прапанаваў першачаргова разгледзець папярэдне ўнесенае ў парадак дня пытанне «Аб далейшым паглыбленні і развіцці інтэграцыйных працэсаў паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй і іншымі дзяржавамі, якія ўтварыліся на тэрыторыі СССР», і аб звароце Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да кіраўнікоў дзяржаў. Акрамя таго, было прапанавана зрабіць даклад па гэтаму пытанню Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь. Згаданая прапанова, пад якой падпісаліся пераважна прадстаўнікі фракцыі камуністаў і аграрыяў, выклікала спрэчкі, якіх у сённяшнім парламенце яшчэ не было, бо зразумела, што гэтае рашэнне справакавана падзеямі ў Дзяржаўнай думе Расіі. У выніку пайменнага галасавання за ўключэнне ў парадак дня гэтай прапановы прагаласавала 125 чалавек, супраць — 12 і 14 устрымалася.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ Ў БЯГУЧЫМ ГОДЗЕ НАВЕДАЕ ГЕРМАНІЮ, ТУРЦЫЮ, ІНДЫЮ

**Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, бліжэйшая паездка Аляксандра Лукашэнкі ў далёкае замежжа павінна адбыцца ўжо ў красавіку. Прадугледжваецца, што беларускі Прэзідэнт у бягучым месяцы наведае Федэратыўную Рэспубліку Германіі. Узгоднены таксама тэрміны візіту кіраўніка дзяржавы ў Турцыю, які намечаны на чэрвень.**

У прэсе прайшла інфармацыя аб тым, што Прэзідэнт рэспублікі атрымаў афіцыйнае запрашэнне наведаць Індыю. Індыйскі бок пакуль не можа пацвердзіць канчатковых тэрмінаў знаходжання кіраўніка нашай дзяржавы ў гэтай краіне. І абумоўлена гэта перш за ўсё, унутрыпалітычнай сітуацыяй у Індыі. Зрэшты, паводле слоў намесніка міністра замежных спраў Беларусі Міхаіла Хвастова, гэта паездка можа адбыцца ў другой палове 1996 года.

Пасольства Беларусі ў ЗША і амерыканскае пасольства ў нашай рэспубліцы працуюць над падрыхтоўкай візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Праўда, пакуль невядомы нават прыблізныя яго тэрміны, і цяпер можна гаварыць толькі аб намеры кіраўнікоў дзвюх краін правесці сустрэчу на вышэйшым узроўні.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**



Каваль заўсёды быў паважанай асобай: і ў далёкім мінулым, і сёння без яго не абысціся.

Больш як трыццаць гадоў працуе ў калгасе «Чырвоны сцяг» Баранавіцкага раёна каваль **Дзмітрый ШУЛЕЙКА**. Цяпер, калі ў дэфіцыце многія запчасткі да тэхнікі, ён заўсёды прыходзіць на дапамогу трактарыстам, шафёрам. За яго майстэрства, за ўмелыя рукі і карыстаецца каваль вялікай пашанай у вяскоўцаў.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## СІТУАЦЫЯ

# ЦЕНІ АЛКАГОЛЬНА-ТЫТУНЁВАГА РЫНКУ

**З усіх відаў «ценявога бізнесу» на Беларусі ў апошнія гады , відавочна, найбольшы размах атрымаў гандаль імпартнымі алкагольнымі і тытунёвымі вырабамі без акцызных марак. Агромністыя маштабы дзейнасці цыгарэтна-гарэлачнай мафіі яскрава адлюстроўваюць не толькі бясконцыя шыхты пенсіянераў і беспрацоўных, якія прадаюць «безакцызныя» цыгарэты ў людных месцах. Яшчэ больш пераканаўча сведчаць аб фінансавых памерах гэтага «спрута» вынікі праведзеных нядаўна супрацоўнікамі праваахоўных органаў спецыяльных мерапрыемстваў па выяўленню і спыненню фактаў незаконнай рэалізацыі тытунёвых і алкагольных вырабаў.**

**Карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з начальнікам аддзела ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС краіны Аляксандрам ЯЦКОЎСКІМ і папрасіў прааналізаваць сітуацыю на «чорным» рынку імпартных цыгарэт і спіртных напояў.**

**— Аляксандр Трафімавіч, работнікі УБЭЗ, падатковай інспекцыі даволі актыўна спрабуюць навесці парадак у гандлі імпартнымі цыгарэтамі і спіртнымі напоямі, але, тым не менш, «ценявы» тытунёва-гарэлачны бізнес на Беларусі да гэтага часу жыве і квітнее. У чым, на вашу думку, сакрэт «неўміручасці» гэтага злачынства?**

— Сапраўды, праваахоўныя і кантралюючыя органы прыкладаюць шмат намаганняў у барацьбе з цыгарэтна-гарэлачнай мафіяй на Беларусі. Выконваючы Указ Прэзідэнта ад 2.02.1996 года N45 «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, рэалізацыі, захавання алкагольных і тытунёвых вырабаў», супрацоўнікамі міністэрства ўнутраных спраў зусім нядаўна былі праведзены аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па выяўленню і спыненню фактаў рэалізацыі без акцызных марак імпартных цыгарэт і спіртных напояў. У выніку намі былі выяўлены 54 злачынствы. У правапарушальнікаў канфіскавана падакцызных тавараў на 7 мільярдаў рублёў.

Але, як вы правільна заўважылі, «ценявы» тытунёва-гарэлачны бізнес нам спыніць пакуль не ўдалося. Тут адных намаганняў работнікаў сістэмы МУС і падатковай інспекцыі мала. Найперш неабходна ліквідаваць умовы, якія спрыяюць росквіту ценявога бізнесу на Беларусі.

Не сакрэт, што ў кіраўнікоў тытунёва-гарэлачных мафіёзных структур добра адладжаная сістэма дастаўкі тавару з-за мяжы. Прычым вязуць гарэлку і цыгарэты з-за мяжы вельмі часта зусім легальна. Па дакументах гэтыя грузы звычайна лічацца транзітнымі і таму не абкладаюцца акцызнымі падаткамі, але на самай справе канчатковага пункту дастаўкі яны не дасягаюць, а проста «губляюцца» на тэрыторыі нашай краіны. Потым, праз шырока разгалінаваную сетку перакупшчыкаў, рэалізуюцца пенсіянерамі і беспрацоўнымі на Камароўцы ці ля падземных пераходаў. Змагацца непасрэдна з тымі ж бабулькамі марна. Нават калі ў які-небудзь дзень кінуць на гэтую няўдзячную справу ўсе міліцэйскія сілы і паспрабаваць прыцягнуць да адказнасці дробных гандлярак цыгарэтамі без акцызных марак, наўрад ці назаўтра не знойдзецца столькі ж жадаючых падацца ў вулічныя гандляры тытунёвымі вырабамі. Час сёння такі, што людзі імкнуцца ўсякімі спосабамі паправіць сваё жабрацкае становішча.

Таму куды больш мэтазгодна было б навесці парадак з транзітам падакцызных грузаў праз Беларусь, каб перакрыць каналы іх паступлення на склады перакупшчыкаў. Для гэтага, на маю думку, варта было б увесці практыку мытнага суправаджэння падакцызных

(Заканчэнне на 3-й стар.)

# ЖЫЦЦЁ ЯК ЗАРПЛАТА... ЦІ НААДВАРОТ?

**Не ведаю, ці разбіраліся нашы мамы, таты, бабулі і дзядулі ў азах эканомікі колькі гадоў таму? Наўрад ці. Напэўна, і слоў такіх раней не ведалі: спажывецкая карзінка, пражытачны мінімум, рэальны кошт зарплаты і г.д. Жылі спакойна, нязлосна скардзячыся на малы заробак, з якога, між іншым, рэгулярна нешта адкладвалі на «чорны дзень», куплялі рэчы, будаваліся, праводзілі і сустракалі з арміі сыноў, ладзілі вяселлі дочкам. Усё пачалося з першымі праявамі інфляцыі, пад уплывам якой ранейшае жыццё набыло па-новаму іншы, настальгічна-прыцягальны, сэнс.**

Колькі гадоў мінула з таго часу, шмат што змянілася і ў краіне, і ў свеце, а глядзі ты: сёй-той і зараз цяжка ўздыхне, перавёўшы цяперашнюю зарплату, напрыклад, на колькасць боханаў хлеба або кілаграмаў мяса і з сумам прыгадаўшы, што раней можна было набыць за свае 120—150 рублёў... Што і гаварыць, жыццё добра навучыла нас лічыць: і беларусаў, і рускіх, і ўкраінцаў, словам, усіх простых людзей. Бяда хутчэй у іншым. Гэтак жа лічыць капейчыну, як гэта робіць бабулька каля прылаўка ў краме, не здолелі навучыцца многія правіцелі. Пакінем на сумленні апошніх гэтую глабальную праблему і проста параўнаем, як жывём мы і як жывуць нашы суседзі. Зразумела, можа знайсціся чытач, які запярэчыць: хто многа атрымлівае, можа столькі ж плаціць і за жыццё, якое, адпаведна, мае больш высокі кошт. Шаноўны, у нечым вы будзеце мець рацыю, але гэта ўжо тэма наступнай гаворкі.

| | У нацыянальнай валюце | У доларах ЗША | У рублях РФ | У разліковых білетах РБ |
|---|---|---|---|---|
| **Мінімальная зарплата** | | | | |
| Беларусь | 100.000 | 8,70 | 41.667 | 100.000 |
| Расія | 63.250 | 13,22 | 63.250 | 161.765 |
| Украіна | 1500.000 | 8,15 | 37.500 | 93.750 |
| Літва | 210 | 52,50 | 262.500 | 700.000 |
| **Сярэдняя зарплата за студзень** | | | | |
| Беларусь | 1.017.271 | 88,46 | 432.863 | 1.017.271 |
| Расія | 700.000 | 146,35 | 700.000 | 1.790.282 |
| Украіна | 11.452.000 | 62,24 | 286.300 | 715.750 |
| Літва | 467,58 | 116,90 | 584.475 | 1.558.600 |

Падрыхтаваў Сяргей РАСОЛЬКА.

# БЕЛАРУСКАЯ БЮРАКРАТЫЯ НА ВЫДУМКУ ЗДАТНАЯ

***За апошнія гады беларуская бюракратыя наладзіла зусім легальную сістэму атрымання, калі можна так сказаць, непрацоўных прыбыткаў***

**Сёння рэдка ў якой дзяржаўнай установе акажуць бясплатныя паслугі, нягледзячы на тое, што пераважная большасць з нас з'яўляецца падаткаплацельшчыкамі і вымушана спраўна аддаваць частку заробленых грошай на ўтрыманне гэтага ж самага дзяржаўнага апарату.**

**Паказальным у гэтым плане з'яўляецца распараджэнне кіраўніцтва МУС, згодна з якім сёлета ўладальнікі транспартных сродкаў абавязкова павінны замяніць старыя, чорна-белыя, нумарныя знакі на новыя, чырвона-белыя. Дарма, што некалькі гадоў назад тагачасны міністр унутраных спраў Уладзімір Ягораў сваім загадам замацаваў «роўныя правы» старых і новых нумарных знакаў і дазволіў выкарыстоўваць «чорна-белыя» да таго часу, пакуль яны не сапсуюцца. Але адзін з цяперашніх намеснікаў кіраўніка МУС вырашыў адным росчыркам пяра адмяніць загад міністра Ягорава. Словам, уладальнікаў транспартных сродкаў са старымі нумарнымі знакамі чакалі чэргі ў Дзяржаўтаінспекцыі і, як вынік, марная трата каштоўнага часу і грошай.**

**На рэдакцыю абрушылася хваля тэлефонных званкоў чытачоў, якіх цікавіла, наколькі адпавядае закону распараджэнне МУС аб замене старых нумарных знакаў?**

**З гэтым пытаннем карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да начальніка ўпраўлення агульнага нагляду Пракуратуры краіны Міхаіла СНЕГІРА.**

— Да нас у пракуратуру з падобным пытаннем таксама звярталіся некаторыя грамадзяне. Былі нават дэпутацкія запыты. Таму мы вырашылі дасканала вывучыць гэтую праблему.

Дык вось. Яшчэ ў 1992 годзе, калі з'явіліся новыя, чырвона-белыя нумарныя знакі, тагачасны міністр унутраных спраў Уладзімір Ягораў выдаў загад № 115, якім абавязаў выдаваць новыя нумары для транспартных сродкаў толькі пасля выкарыстання старых.

Аднак 22 студзеня мінулага года адзін з намеснікаў міністра ўнутраных спраў выдаў указанне аб замене ў абавязковым парадку старых нумарных знакаў. На думку пракуратуры, гэтае ўказанне незаконнае, бо ўносіць падобныя змены ў парадак выдачы нумарных знакаў можа толькі міністр унутраных спраў.

Апроч таго, мы не згодны з зацверджанымі 13 лютага бягучага года новымі стаўкамі збораў з уладальнікаў транспартных сродкаў за выдачу нумарных знакаў, вадзіцельскіх пасведчанняў і талонаў да іх, за прыём экзаменаў, правядзенне тэхнічнага агляду. У залежнасці ад віду ўказаных вышэй паслуг новыя стаўкі збораў «вагаюцца» ад 10 да 500 працэнтаў мінімальнага заробку. Ніякіх эканамічных разлікаў па абгрунтаванню гэтых лічбаў няма. Таму Генеральны пракурор вынес пратэст і папрасіў міністра ўнутраных спраў адмяніць указанне аб абавязковай замене старых нумарных знакаў.

**— Міхаіл Валянцінавіч, але ж выпадак з заменай старых нумарных знакаў — толькі капля ў моры прававога бязмежжа, якое ствараюць сёння чыноўнікі розных узроўняў. Не сакрэт, што сёння практыка спагнання платы за паслугі распаўсюджана амаль ва ўсіх дзяржустановах. Чаму, на вашу думку, зараз беларуская бюракратыя легальна займаецца «дробным рэкетам»?**

— Я згодны. Сёння пад маркай аказання паслуг многія дзяржаўныя ўстановы па сутнасці займаюцца зборам. Напрыклад, немагчыма атрымаць які-небудзь квіток ці даведку, не заплаціўшы пэўную суму грошай, хоць чыноўнікі дзяржустаноў і без таго атрымліваюць заробак з мясцовага ці рэспубліканскага бюджэту.

Да таго ж многія мясцовыя Саветы часта устанаўліваюць свае зборы. Прычым, падставай для спагнання з наведвальнікаў грошай часам служаць проста смехатворныя рашэнні аб мясцовых зборах. У мінулым годзе намі спецыяльна была вывучана практыка ўстанаўлення і прымянення збораў органамі выканаўчай улады мясцовых Саветаў. Мы выявілі такія факты, калі зборы ўстанаўлівалі, напрыклад, нават за капанне гліны альбо пяску.

Каб вырашыць гэтую праблему, я лічу, неабходна дакладна заканадаўча адрэгуляваць парадак спагнання збораў. Найперш трэба даць дакладнае тлумачэнне ў Законе «Аб падатках і зборах» самому тэрміну «збор». Канкрэтна вызначыць, што такое рэспубліканскі і мясцовы зборы. Я ўжо звяртаўся з адпаведнай прапановай да сваіх калег, дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Між іншым, я мяркую, што ў існуючым законе дакладнае тлумачэнне паняцця «збор» адсутнічае не выпадкова. Гэта стварае розным дзяржаўным установам выдатныя ўмовы для дадатковага папаўнення за наш з вамі кошт сваіх бюджэтаў.

Таму заканадаўцы павінны дакладна вызначыць, куды гэтыя зборы павінны паступаць. Зараз гэтыя сродкі, як правіла, ідуць у ведамасную скарбонку. Гэта заахвочвае чыноўнікаў дзяржустаноў і яны прыдумваюць розныя віды збораў, незаконна ўводзяць плату за паслугі.

**— Што б вы параілі нашым чытачам у выпадку, калі ў дзяржустанове з іх запатрабуюць збор за якую-небудзь даведку?**

— Калі людзі бачаць, што ў дзяржустанове з іх несправядліва бяруць плату за нейкія паслугі, няхай звяртаюцца ў органы пракуратуры ці абскарджваюць дзеянні службовых асоб у судзе. Мы ж абавязкова вывучым сітуацыю і дадзім прававую ацэнку дзеянням дзяржчыноўнікаў.

Мікола ДЗЯБЁЛА.

# ЦЕНІ АЛКАГОЛЬНА-ТЫТУНЁВАГА РЫНКУ

***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).***

грузаў ад мяжы краіны, з якой прыбыў тавар, да мяжы той дзяржавы, куды ён згодна з дакументамі перавозіцца, а таксама выдзеліць спецыяльныя мытныя пункты для пропуску грузавога транспарту.

Апроч таго, многія камерцыйныя фірмы, каб атрымаць большы «навар» з мінімальнымі затратамі, распрацавалі простую і разам з тым эфектыўную схему. Сутнасць яе заключаецца у тым, што на беларускіх дзяржпрадпрыемствах набываецца алкагольная прадукцыя. Па дакументах яна прызначана для продажу ў краінах СНД — у такіх выпадках прадпрыемствам дазваляецца зніжаць адпускныя цэны. Але, набыўшы запаветны тавар, камерсанты, як правіла, не вывозяць яго за межы краіны, а прадаюць на Беларусі па цэнах, намнога ніжэйшых за дзяржаўныя. У выніку такой нядобрасумленнай канкурэнцыі церпяць страты не толькі дзяржаўныя ўстановы гандлю, але і бюджэт краіны, які не атрымлівае сваёй долі ў выглядзе падаткаў. Напрыклад, не так даўно на пункце мытнага афармлення «Новая Рудня» Ельскага раёна Гомельскай вобласці затрыманы дзве аўтамашыны «КамАЗ», у якіх перавозілася 20 тон спірту з Украіны нібыта для адной расійскай фірмы. У працэсе следства высветлілася, што фірмы, адрас якой значыўся ў дакументах, у Расіі наогул не існуе.

**— Вяртаючыся да пытання аб «знікненні» транзітных падакцызных грузаў на Беларусі, дзе звычайна захоўваюцца буйныя партыі такіх цыгарэт ці гарэлкі?**

— Як правіла, дзялкі тытунёва-гарэлачнага бізнесу хутка знаходзяць агульную мову з кіраўнікамі прадпрыемстваў, што маюць складскія памяшканні. Нядаўна супрацоўнікамі АБЭЗ Магілёўскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў у складскіх памяшканнях прадпрыемства «Белсантэхмантаж» выяўлена 8 тысяч бутэлек гарэлкі «Сталічная» без акцызных марак, а таксама буйная партыя каньяку і лікёру (на 900 мільёнаў рублёў). Гаспадаром гэтых спіртных напояў з'яўлялася адна камерцыйная фірма.

На складах камбіната «Заходні», што ў Смалявіцкім раёне, знаходзілася 7000 бутэлек малдаўскай гарэлкі — таксама без акцызных марак.

А некаторыя сталічныя «ценевікі» захоўваюць падакцызны тавар у звычайных дамах прыватнага сектара.

Напрыклад, 7 сакавіка ў Мінску ў адным з прыватных дамоў намі было выяўлена 1667 скрынак гарэлкі «Петров» у слоіках ёмістасцю 0,33 л, 172 скрынкі гарэлкі гэтай жа маркі ў бутэльках, 305 скрынак гарэлкі «Сталічная», 644 скрынкі гарэлкі «Руская» і многа іншых спіртных напояў — усяго больш за 30 тысяч літраў. На ўсе гэтыя алкагольныя вырабы, якія належалі аднаму сталічнаму прадпрымальніку, адсутнічалі не толькі акцызныя маркі, але нават дакументы, якія сведчылі аб «паходжанні» тавару, не было і сертыфікату якасці.

**— З якіх краін зараз найчасцей экспартуюць гарэлку і тытунёвыя вырабы дзялкі ценявога тытунёва-гарэлачнага бізнесу?**

— Калі коратка, то на гэтае пытанне можна адказаць прымаўкай: дзе тонка — там і рвецца.

Іншымі словамі, «ценевікі» імкнуцца наладзіць пастаўкі алкаголю і цыгарэт пераважна з тых краін, дзе мяжа не вельмі пільна ахоўваецца, альбо там зусім няма ні пагранічнага, ні мытнага кантролю.

Так, нядаўна у Добрушскім раёне быў затрыманы мінчанін Б., які на грузавым аўтамабілі перавозіў з Расіі 3600 бутэлек гарэлкі «Крамлёўская» на суму 128 мільёнаў рублёў. Вядома ж, груз быў без акцызных марак.

Непадалёку ад Лоева супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы жыхар Рэчыцы, які вёз з Украіны 200 літраў спірту.

Дарэчы, танны ўкраінскі спірт выкарыстоўваецца найчасцей на падпольных гарэлачных заводах. Напрыканцы мінулага месяца ў Баранавічах нашымі супрацоўнікамі выяўлены міні-завод па вытворчасці фальсіфікаванай гарэлкі. Там было канфіскавана 5 тысяч бутэлек гэтага сурагату.

Што датычыць цыгарэт, то, па нашых звестках, буйныя мафіёзныя кланы з Беларусі маюць трывалыя сувязі з прыбалтыйскімі і нават заходнееўрапейскімі пастаўшчыкамі.

**— 13 сакавіка ўступіла ў сілу пастанова Кабінета Міністраў № 159. Згодна з гэтым дакументам прадпрыемствы, якія займаюцца вырабам і продажам спіртных напояў і цыгарэт, павінны атрымаць новыя ліцэнзіі на права займацца такім бізнесам. Зусім верагодна, што не ўсе ранейшыя легальныя «алкагольна-тытунёвыя магнаты» здолеюць займець гэтыя ліцэнзіі. Як вы лічыце, ці не папоўняць яны ў такім разе шыхты «ценевікоў»?**

— Тэарэтычна такая пагроза існуе. Але яна існавала і тады, калі не было ні прэзідэнцкага ўказа № 45, ні згаданай урадавай Пастановы. Затое зараз дзякуючы ўказу Прэзідэнта і Пастанове Кабінета Міністраў, спадзяюся, будзе наведзены належны парадак у сферы вытворчасці, гандлю і захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў. А мы будзем працягваць сваю працу па спыненню нелегальнага паступлення і рэалізацыі на Беларусі імпартных цыгарэт і спіртных напояў без акцызных марак і дакументаў сертыфікацыі якасці.

Мікола ДЗЯБЁЛА.

# ЦЭЛЮЛОЗНА-ПАПЯРОВАЯ ГАЛІНА: МАГЧЫМЫ ЛЯТАЛЬНЫ ЗЫХОД

**На сённяшні дзень па ўзроўню спажывання паперы Беларусь знаходзіцца дзесьці ў канцы спіса — 14 кілаграмаў на душу насельніцтва. Нават у Кітаі, дзе гэтых самых душ значна больш, прыпадае 12 кілаграмаў у год. Пра Бразілію і казаць няма чаго: там адным сярэднестатыстычным жыхаром спажываецца 31 кілаграм паперы і вырабаў з яе. А што тычыцца Польшчы з яе ста кілаграмамі на чалавека, тым больш ЗША, ФРГ з трымястамі, то гэтыя паказчыкі для нашай краіны такія ж недасягальныя, як касмічная прастора для самалёта.**

**Узровень эканомікі краіны вызначаецца ўзроўнем развіцця вытворчасці паперы. У 1994 годзе ў Фінляндыі, якая валодае такімі ж прыроднымі рэсурсамі, што і Беларусь, аб'ём валютнай выручкі за экспарт паперы і прадукцыі з яе склаў 40 працэнтаў ад агульнага аб'ёму экспарту, у той час як у Беларусі гэты паказчык склаў 4,5 працэнта. Кажучы папулярна, мы прадаём амаль за бесцань прадукт, які пасля апрацоўкі можа прыносіць немалыя грошы.**

## СПРАВА НЕ ЗА МАЛЫМ

Гістарычна склалася так, што ў Беларусі развівалася мэблевая галіна. Вытворчасць кардону і паперы ў рэспубліцы таксама была даволі значная (штогод у краіне да распаду СССР выраблялася 400—430 тысяч тон гэтай прадукцыі), аднак сыравіна (цэлюлоза) пастаўлялася пераважна з Расіі. З набыццём суверэнітэту Беларусь згубіла сыравінную базу. Купіць жа цэлюлозу мы не можам: не па кішэні. Як вынік — папяровыя камбінаты амаль не працуюць. У выніку праз год-другі рэспубліка можа застацца з металаломам на прадпрыемствах цэлюлозна-папяровай галіны.

Зразумела, такога фіналу ніхто не жадае. Яшчэ ў 1993 годзе Прэзідыумам Савета Міністраў было прынята рашэнне аб мэтазгоднасці будаўніцтва ў рэспубліцы цэлюлозна-папяровага камбіната (ЦПК). Месца таксама было вызначана — Віцебская вобласць, дзе найбольшая забяспечанасць воднымі і ляснымі рэсурсамі. Пачаць будаўніцтва камбіната па вытворчасці 150 тысяч тон цэлюлозы і 80 тысяч тон высакаякаснай паперы ў год планавалася ў 1994 годзе, скончыць — у 1998-м. Між тым, справа прыпынілася з-за адсутнасці фінансавання ў памеры 420 млн. долараў.

У канцы мінулага года Кабінет Міністраў зноў вярнуўся да гэтага пытання. На працягу першага квартала бягучага года Міністэрству знешніх эканамічных сувязей даручана знайсці замежнага інвестара, Міністэрству фінансаў — адшукаць сродкі для фінансавання да 65 працэнтаў аб'ёму будаўніцтва, Міністэрству эканомікі — вызначыць месца размяшчэння будучага камбіната. Магчымай базай для будаўніцтва называецца Наваполацкі камбінат вітамінна-бялковых канцэнтратаў у Віцебскай вобласці. У такім разе затраты на рэалізацыю праекта могуць быць зніжаны да 280 млн. долараў ЗША. Але сёння ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей акрамя як «шукаем» адказаць нічога не могуць. Дзе размесціцца камбінат, пакуль таксама невядома (пры вызначэнні яго месцазнаходжання, вядома ж, трэба ўлічыць інтарэсы інвестара).

З'яўленне камбіната дасць магчымасць не толькі забяспечыць сыравінай прадпрыемствы галіны, але і прадаваць тону цэлюлозы за 500 долараў ЗША, паперы — за 800 долараў. Сёння ж мы прадаём кубічны метр лесу за... 36 долараў. А потым купляем прадукцыю з нашай жа сыравіны за сумы, мякка кажучы, «крыху» большыя.

## СЁННЯ

Адсутнасць жадання ў патэнцыяльных інвестараў удзельнічаць у праекце не ў апошнюю чаргу тлумачыцца доўгім тэрмінам акупнасці — 5-7 гадоў. Між тым, прадпрыемствам неяк трэба выжываць. Большасць з іх працуе на макулатуры, якую ў асноўным прывозяць з-за мяжы (адкуль жа ў нас макулатура будзе, калі зніжаюцца тыражы газет, кніг?). Адпаведна, і якасць паперы нізкая. Гэта пры тым, што ў рэспубліцы існуюць магутнасці па вытворчасці практычна ўсіх відаў высакаякаснай паперы і кардону, здольных канкурыраваць з прадукцыяй іншых вытворцаў.

## МАГЧЫМЫЯ ВАРЫЯНТЫ

Па меркаванню супрацоўніка Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі РБ Алены Мешчараковай, будаўніцтва ЦПК неабходна, але перш за ўсё трэба звярнуць ўвагу на існуючыя магчымасці. Каб выправіць сітуацыю, неабходна пабудаваць пры дзвюх-трох папяровых фабрыках драўнінна-масныя заводы. Гэта дасць магчымасць забяспечыць беларускія прадпрыемствы сыравінай на 50 працэнтаў. Прычым, будаўніцтва такіх заводаў патрабуе значна меншых капітальных укладанняў і эксплуатацыйных сродкаў.

Зборам макулатуры, лічыць А. Мешчаракова, трэба займацца сур'ёзна. У заходніх краінах важнасць гэтай справы рэгламентуецца кіраўніцтвам дзяржавы, бо, па-першае, гэта больш танная сыравіна, па-другое, утылізацыя яго экалагічная — не забруджваецца навакольнае асяроддзе пры эканоміі лясных рэсурсаў, вады і электраэнергіі. Нам не пашкодзіла б пераняць вопыт.

Пакуль на прадпрыемствах галіны захаваўся кадравы патэнцыял, неабходна рэканструяваць іх, пераабсталяваць. Алена Валянцінаўна прывяла як прыклад Слонімскі папяровы камбінат, дзе закансерваваны работы па будаўніцтву цэха па вытворчасці санітарна-гігіенічных відаў паперы: неабходны ўкладанні ў суме 6 млн. долараў.

Па меркаванню Алены Мешчараковай, будаўніцтва ЦПК можна пачынаць толькі пры наяўнасці сур'ёзнага інвестара. Выконваць праект павінны абавязкова прафесіяналы на базе навейшых перспектыўных тэхналогій. Акрамя таго, трэба стварыць незалежны Савет Экспертаў (гэта могуць быць спецыялісты з Расіі і інш. краін), які б ацаніў узровень магчымага, намечанага да пастаўкі абсталявання. Рашаючыя аргументы ў выбары абсталявання — яго экалагічнасць і высокая якасць. У адваротным выпадку наша цэлюлоза будзе неканкурэнтаздольнай, а яе вытворчасць — шкоднай для навакольнага асяроддзя.

***P.S. Вядома, выйсці з гэтага складанага становішча няпроста. Тым не менш, цэлюлозна-папяровыя камбінаты яшчэ хапаюцца за саломінку: працуюць на таннай макулатуры. Хаця, па прагнозах спецыялістаў, гэтая саломінка доўга іх не ўтрымае. Таму з яе, прабачце за каламбур, на шклоўскай фабрыцы будзе ажыццяўляцца эксперыментальная варка цэлюлозы. Што з гэтага атрымаецца — адказаць пакуль немагчыма. Глядзіш, саломінка не падвядзе.***

Жанна КАТЛЯРОВА.

# СЯЎБА...
## СПРАДВЕЧНЫ КЛОПАТ СЕЛЯНІНА

**Сцвярджаюць, што мы жывём у надзвычай складаны час: інфляцыя, рост цэн, разарваныя эканамічныя сувязі, беспрацоўе і г. д. Асабліва часта гэтыя словы чуюцца напярэдадні веснавых работ, калі адказныя работнікі самых розных рангаў уздымаюць гэтую праблему ледзь не на ўзровень нацыянальнай трагедыі. Зрэшты, з імі ў многім цяжка не пагадзіцца. З іншага боку, калі селяніну было лёгка? Але і падчас войнаў, і ў гады аднаўлення гаспадаркі, і ў часы хаосу і бязладдзя хлебароб усё роўна кожную вясну выходзіў у поле. Краіну маглі трэсці чарговыя рэформы і рэферэндумы, балюча біць дэфіцыт тэхнікі, паліва, угнаенняў, але нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды вёска зноў і зноў сеяла. Хлеб — гэта жыццё. Каму, як не ім, працаўнікам-хлебаробам, ведаць сапраўдны сэнс гэтых слоў. Дзяржава іх падманвае, выплачваючы мізэрную зарплату і здзіраючы астранамічныя сумы за тэхніку, нестае на вёсцы сапраўднага, цывілізаванага дабрабыту, а яны, работнікі ад Зямлі, зноў і зноў кідаюць у глебу насенне. Так было спрадвеку. Так будзе заўсёды...**



Калаж Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

### БУДЗЕ Ў ЗЯМЛЮ КІНУТА НАСЕННЕ

**Дбайны і прадбачлівы гаспадар пачынае рыхтавацца да веснавых работ на сваім зямельным участку загадзя: набывае новы або рамантуе стары садова-агародны рыштунак, купляе ўгнаенні, насенне. Але не бяда, калі набыць неабходнае ў зімовыя месяцы не ўдалося.**

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Беларускім аб'яднанні «Сортнасеннеагародніна», з пачатку сакавіка і прыкладна да канца мая ў краіне (сталіцы, абласных і раённых цэнтрах) будуць адчынены 120 сезонных гандлёвых кропак па продажы ўсяго неабходнага для разбіўкі градак. Акрамя таго, 30 аналагічных магазінаў працуюць круглы год. Дарэчы, спецыялісты вельмі раяць звяртацца па насенне менавіта ў магазіны аб'яднання. Тут іх кошт самы невялікі, а па якасці яны не горшыя за рэкламаваныя іншаземныя. Мяркуйце самі: насенне морквы (5 г) вы зможаце набыць за 1.500—2000 рублёў, агуркоў (ад 1 да 5 г) — за 1.100—3.200, сталовых буракоў (10 г) — за 1.800, таматаў (2 г) — за 1.600, кабачкоў (2 г) — нават за 800 рублёў. А кілаграм выдатнай замежнай цыбулі-севаку абыдзецца ўсім жадаючым у 25 тысяч «зайцоў». Тры кілаграмы біягумусу, напрыклад, будуць каштаваць 9 тысяч, пяць кілаграмаў аграглебы — столькі ж, набор угнаенняў пад буракі — 6.300 рублёў.

Як паведамілі ў сваю чаргу ў «Белсортаб'яднанні», у фірменным магазіне «Насенне» (вул. Казінца, 86) можна набыць насенне пшаніцы, рапсу, ячменю, кармавых караняплодаў, якія прадаюцца тут як оптам, так і ў розніцу. Напрыклад, кілаграм ячменю абыдзецца тут у 1.700 рублёў (у іншых магазінах — 2.100), кілаграм пшаніцы — у 2000 рублёў (супраць 3.800 у шэрагу гандлёвых кропак). Тут жа можна будзе «атаварыцца» і такой неабходнай кожнаму дачніку плёнкай. Каштуе гэтая «радасць землеўладальніка» 6,5 тыс. рублёў за пагонны метр (шырынёю 1,4 метра).

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### НАЯЎНАСЦЬ СРОДКАЎ — АДСУТНАСЦЬ ПРАБЛЕМ

**Вясна вось-вось заявіць аб сабе на поўны голас, таму аграрнікі Пухавіцкага раёна самым актыўным чынам вядуць падрыхтоўку да сяўбы. Праўда, каб належным чынам правесці веснавыя работы, патрэбны вялікія грошы, якіх у збяднелых гаспадарак няма. Пакуль пытанне крэдытаў і пазык не вырашана, кожны выкручваецца як можа.**

Намеснік начальніка Пухавіцкага райсельгасхарчу Анатоль Котаў паведаміў, што ў раёне забяспечанасць мінеральнымі ўгнаеннямі складае толькі 9 працэнтаў ад неабходнага. Патрэбна 13 млрд. рублёў, каб набыць азотныя, фосфарныя і калійныя ўгнаенні. А адна тона, напрыклад, сульфату амонію каштуе 318 тысяч рублёў, карбаміду — 1 млн. 305 тысяч, хлорыстага калію — 440 тысяч рублёў. З-за адсутнасці сродкаў гаспадаркі ў асноўным набываюць угнаенні па бартэру або заключаюць дагаворы на аплату праз два месяцы. Што тычыцца арганічных угнаенняў, то з-за адсутнасці паліва на палеткі іх вывозяць лічаныя калгасы і саўгасы. Тарфакрошкі вывезена пад веснавую сяўбу ўсяго 28 тысяч тон, а трэба хаця б 100 тысяч тон. Адна тона яе каштуе усяго 10—12 тысяч «зайцоў», але з дастаўкай «Райсельгасхіміяй» яна цягне ўжо на 1 млрд. рублёў за восем тон (з дастаўкай уласным транспартам гаспадарак — напалову танней).

З насеннем вялікіх праблем няма — яго набываюць у абмен на фураж, але цэны тут таксама астранамічныя. Скажам, адна тона элітнага ячменю каштуе 2 млн. 600 тысяч рублёў, аўса — 4 млн. 100 тысяч, грэчкі і бабовых — каля 9 млн. рублёў. Кошт адной тоны насення кармавых караняплодаў наогул дасягае 20 млн. рублёў.

Зразумела, што толькі пасеяць мала. А забяспечанасць раёна сродкамі хімічнай праполкі збожжавых складае толькі 24 працэнты ад неабходнага. Цэны ж на гэтыя рэчывы вагаюцца ад 2,8 да 8 долараў за кілаграм, таму іх бяруць у асноўным па бартэру.

Крыху лягчэй у справе падрыхтоўкі да сяўбы, бадай, толькі прыватнікам. У Мар'інай Горцы вялікі выбар насення, кошт аднаго пакеціка складае 1—3 тысячы рублёў. Элітнае насенне бульбы на мясцовай эксперыментальнай базе «Зазер'е» можна набыць прыкладна па 3 тысячы за кілаграм. Кошт жа адной тоны арганікі для прыватнікаў складае 120—150 тысяч рублёў.

**Аліна ГРЫШКЕВІЧ.**

### УКЛАДВАЮЦЬ ГРОШЫ Ў НАШЧАДКАЎ

**У саўгасе «Бярозаўскі» аднайменнага раёна клапоцяцца аб сваіх працаўніках, а таксама аб студэнтах, дзецях рабочых саўгаса. Тут разумеюць, што цяжкасці мінуцца, а рэспубліцы, тым больш гаспадарцы, кваліфікаваныя кадры будуць патрэбны заўсёды.**

Па накіраванню гаспадаркі і за яе кошт Эдуард Антончык займаецца ў Беларускім аграрна-тэхнічным універсітэце, у Віцебскім ветэрынарным інстытуце займаюцца Ірына Тарасава і Эдуард Кулік. Алег Быцко вучыцца ў політэхнічнай акадэміі. Юрыстам будзе Святлана Алясевіч, якая вучыцца ў Беларускім недзяржаўным універсітэце прававых ведаў, Алена Лойка — студэнтка Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Вольга Марчук — навучэнка Баранавіцкага педкаледжа.

Усім саўгасным студэнтам гаспадарка плаціць стыпендыю на 30 працэнтаў вышэй, чым у студэнтаў дзяржаўных навучальных устаноў, са сродкаў, якія атрымлівае ад жывёлагадоўлі. У зімовы час тут самыя вялікія надоі малака на карову. Значны прыбытак даюць спіртзавод, цэх, дзе выпускаецца свая цэгла, ёсць і свая сталярка. Без увагі не застаюцца і навучэнцы Кабакоўскай сярэдняй школы. Нядаўна саўгас купіў для школы камп'ютэрны клас.

**Людміла ГІЛЕВА.**

### КАМБАЙНЫ НА ЯДЗЕРНАЙ БАЗЕ

**Унікальную пляцоўку для захоўвання сваёй сельскагаспадарчай тэхнікі адшукала кіраўніцтва пастаўскай аграхімфірмы «Зара». Па дамоўленасці з адміністрацыяй будучага дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра, які будуецца цяпер на тэрыторыі былой расійскай ракетнай ядзернай базы, фірма ўзяла ў арэнду асобныя пустуючыя былыя ваенныя аб'екты.**

Зараз збожжа- і бульбаўборачныя, а таксама льнокамбайны, якія мае «Зара», яе трактары, раскідвальнікі ўгнаенняў і іншыя сельскагаспадарчыя агрэгаты ўтульна размясціліся ў падземных капанірах і наземных ангарах. Пры такіх добрых умовах захоўвання тэхніка яшчэ даўжэй паслужыць хлебаробам.

**Уладзімір ШЫК.**

### ДАЎГАМІ СЫТЫ НЕ БУДЗЕШ...

**Толькі ў Шаркоўшчынскім раёне на Віцебшчыне не існуе сёння пратэрмінаванай запазычанасці па зарплаце сярод працаўнікоў вёскі.**

Паводле даных абласнога ўпраўлення статыстыкі, у вобласці яшчэ застаюцца калгасы і саўгасы, якія не разлічыліся са сваімі работнікамі за жнівень мінулага года, а адна з гаспадарак Чашніцкага раёна нават за ліпень не выдала людзям заробленыя грошы.

З агульнай сумы запазычанасці па зарплаце ў вобласці з 72 мільярдаў рублёў на аграрны сектар прыпадае доўг у 52 мільярды рублёў. Да гэтага часу ў 223 калгасах з 345 не змаглі своечасова выплаціць заробак. Падобная карціна назіраецца і ў 105 саўгасах з усіх 163, якія працуюць у вобласці. Шэсць гаспадарак Сенненскага і чатыры Пастаўскага раёнаў маюць запазычанасць па зарплаце за верасень 1995 года. Крыху лепшая сітуацыя ў прамысловасці Віцебшчыны, але на ёй таксама «павіс» доўг па зарплаце рабочым на суму 13 мільярдаў рублёў.

**Уладзімір ШЫК.**

### «І ПАСЕЕМ, І ПАЖНЁМ...»

**Набліжаецца чарговая пасяўная, а разам з ёй асабліва востра паўстаюць праблемы з забеспячэннем сельскіх гаспадарак палівам, тэхнікай, угнаеннямі.**

— І пасеем, і пажнём, — лічыць старшыня Горацкага райсельгасхарчу Віктар Юр'еў, — хоць на самай справе навокал няхватка ўгнаенняў, паліва, запчастак і г. д.

Для таго, каб правесці веснавую сяўбу па неабходнай тэхналогіі, раёну патрэбна 45 млрд. рублёў. На сёння да гэтай сумы не хапае «ўсяго толькі» ... 30 млрд. рублёў, і дзе іх знайсці — нікому невядома. Адзіная магчымая крыніца — выручка за вырабляемую прадукцыю — намертва перакрыта. На сённяшні дзень нам павінны 6 млрд. рублёў, і доўг гэты з кожным днём расце.

Ды і цэны паводзяць сябе даволі дзіўна: на прамысловую прадукцыю імкліва ўзлятаюць уверх, а на сельскагаспадарчую, на жаль, зніжаюцца.

Такая думка кіраўніка лідзіруючага ў рэспубліцы раёна. Што ж тады могуць сказаць тыя, хто ляжыць «у дрэйфе»?

**Міхаіл УЛАСЕНКА.**

### КАМУ ПАТРЭБЕН ГЭТЫ ЛЁН

**Калісьці гэтая культура прыносіла гаспадаркам немалыя грошы. Сёння ж яна наогул страціла сваю былую славу і стала для сялян сапраўднай абузай. Уявіце: 1 тона трасты па кошту роўная 1 тоне збожжа. Пры тым, што затраты на вытворчасць яе значна большыя.**

Напрыклад, у перадавым калгасе «Шлях Леніна» Горацкага раёна рэнтабельнасць збожжавых пасеваў склала ў мінулым годзе 200 працэнтаў, а лёну — толькі 49 працэнтаў. Каму патрэбен гэты лён, задаюцца пытаннем хлебаробы. Не выпадкова, што за апошнія гады плошчы пад даўгунцом скараціліся з 5 тысяч да 600 гектараў.

**Міхаіл УЛАСЕНКА.**

### ТОЛЬКІ Б ВЯСНУ ПЕРАЖЫЦЬ І СЯЎБУ ПРАТРЫМАЦЦА...

**І вечны бой, спакой нам толькі сніцца... Не ведаю, як каму, а асабіста мне гэтыя словы чамусьці прыгадваюцца ўсякі раз, калі ў краіне пачынаецца падрыхтоўка да сяўбы. Фронт работ, рэзервы, машынны парк — ну чым не зводка ваенных дзеянняў! Зрэшты, сяўба і ёсць бой — за дабрабыт, за агульнае багацце, за само жыццё, нарэшце. Бясспрэчна, не будуць выключэннем у гэтым плане і сёлетнія веснавыя работы. У чым сённяшні клопат хлебаробаў, якія «сюрпрызы» чакаюць працаўнікоў вёскі наперадзе? Што пасеем, што пажнём? Па адказ на гэтыя і іншыя пытанні я звярнуўся да намесніка начальніка галоўнага ўпраўлення раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Вячаслава Герасімовіча.**

У бягучым годзе па краіне пастаўлена задача павялічыць вытворчасць валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі ў параўнанні з 1995 годам на 1,5—2 працэнты, забяспечыць атрыманне валавога збору збожжа ва ўсіх катэгорыях гаспадарак не менш як 6,1 млн. тон, бульбы — 10—11, агародніны — 1,1, цукровых буракоў — 1,4 млн. тон, ільноваласна — 59 тыс. тон.

У грамадскім сектары краіны яравая сяўба чакаецца на ўзроўні 2,4 млн. гектараў, што крыху менш, чым у мінулым годзе, і звязана з перавыкананнем аб'ёму пасеваў з восені азімых культур больш чым на 50 тыс. гектараў. У бягучым годзе будуць пашыраны пасяўныя плошчы пад яравую пшаніцу — на 26,6 тыс. гектараў (на 93 працэнты), зернебабовыя — на 47,3 тыс. гектараў (35 працэнтаў) і іх сумесямі са збожжавымі, бульбай, кукурузай, іншымі кармавымі і харчовымі культурамі.

Па словах В. Герасімовіча, да сяўбы большасць гаспадарак краіны поўнасцю забяспечана насеннем як асноўнага, так і страхавога фондаў яравых збожжавых і зернебабовых культур, лёну, шматгадовых траў. Не будзе праблем і з насеннем бульбы, недастаючая пакуль колькасць насення кукурузы, цукровых буракоў, агародніннных культур закупліваецца або завозіцца па бартэру з іншых краін.

Значна горшая карціна склалася ў Беларусі з мінеральнымі ўгнаеннямі. З улікам ужо назапашаных аб'ёмаў і таго, што яшчэ паспеюць выпрацаваць хімічныя прадпрыемствы краіны, да сяўбы плануецца мець у гаспадарках 452 тыс. тон дзеючага рэчыва азоту, фосфару і калію (што, дарэчы, крыху больш мінулагодняга). Разам з тым у краіне прымаюцца меры па паляпшэнню становішча з мінеральнымі ўгнаеннямі.

Як падкрэсліў у гутарцы Вячаслаў Герасімовіч, балючым пытаннем застаецца і праблема тэхнікі. Машынна-трактарны парк за апошнія гады толькі скарачаўся, амаль не папаўняючыся. За мінулы год калгасамі і саўгасамі былі набыты толькі 304 трактары, 211 плугоў, 172 сеялкі, 170 культыватараў і 19 бульбасаджалак. Сёння фактычна каля 40 працэнтаў тэхнікі знаходзіцца па-за амартызацыйным тэрмінам эксплуатацыі. Сур'ёзна паўстае пытанне з падрыхтоўкай гусенічных трактароў — асноўнай машынай для шэрага раёнаў і гаспадарак. Іх парк сёння складае больш як 14,5 тыс. адзінак, а гатоўнасць да сяўбы не перавышае 50 працэнтаў ад агульнай колькасці. Каб іх аднавіць, неабходна 175 млрд. рублёў. Падлягаюць рамонту і больш як 6 тыс. трактароў Т-150К і К-700. Зразумела, гэтыя пытанні таксама вырашаюцца, але пляскаць у ладкі пакуль рана.

Што тычыцца паліва, дык на падрыхтоўчыя работы і правядзенне веснавой сяўбы неабходна 400 тыс. тон дызельнага паліва, 185 тыс. тон аўтамабільнага і 15 тыс. тон змазачных матэрыялаў. Па апошніх аператыўных звестках, у гаспадарках зараз ёсць 33,2 тыс. тон дызпаліва і 11,2 тыс. тон бензіну. У стадыі вырашэння знаходзіцца пытанне аб выдзяленні таварнага крэдыту (у лік авансу за зерне) у колькасці 150 тыс. тон дызельнага паліва, 10 тыс. тон бензіну і нарматыўнай колькасці змазачных матэрыялаў.

Каб завяршыць усе работы, трэба яшчэ набыць 216,7 тыс. тон дызпаліва, 163,7 тыс. тон бензіну і 11,4 тыс. тон змазачных матэрыялаў. Для гэтага неабходна 925,8 млрд. рублёў або выдзяленне недастаючых нафтапрадуктаў у выглядзе таварнага крэдыту.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### МЕЛІЯРАЦЫЯ СУПРАЦЬ ПАВОДКІ: РАЗБУРЭННЯЎ БЫЦЬ НЕ ПАВІННА

**Так ужо склаўся сёлетні год, што акрамя традыцыйных веснавых клопатаў на працаўнікоў вёскі звалілася і іншая навала — паводка, якая, паводле прагнозаў, абяцае быць больш моцнай, чым ў папярэднія сезоны. Чым яна пагражае сельскай гаспадарцы і якія меры прымаюцца па яе ўтаймаванню — на гэтыя пытанні мы папрасілі адказаць першага віцэ-прэм'ера Беларускага дзяржаўнага канцэрна па будаўніцтву і эксплуатацыі меліярацыйных і водагаспадарчых сістэм «Белмеліяводгас» Мікалая Паліўку.**

Як падкрэсліў апошні ў гутарцы з карэспандэнтам газеты, асноўная задача меліяратараў — безаварыйна прапусціць паводку, адначасова назапашваючы ваду на лета. З гэтай мэтай зараз праводзіцца рамонт помпавых станцый, электрарухавікоў, з вадасховішчаў «скідваецца» вада, каб можна было прыняць паводку. Дарэчы, паводле папярэдніх падлікаў, сёлета чакаецца перавышэнне сярэднешматгадовага ўзроўню прытоку вады на 30—50 працэнтаў. Каб не было бяды, зараз падсыпаюць дамбы, загадзя ствараюць аснашчаныя неабходнай тэхнікай аварыйныя брыгады, рэзервовыя фонды матэрыялаў, праводзіцца шэраг іншых мерапрыемстваў. Найбольшую заклапочанасць у гэтай сувязі выклікае вялікі знос матэрыяльна-тэхнічнага парка. На рамонт электрарухавікоў, помпаў неабходна фінансавая дапамога ў памеры 33 млрд. рублёў, але гэтае пытанне пакуль канчаткова не вырашана.

Разам з падрыхтоўкай да паводкі меліяратары не забываюцца і пра заключэнне дагавораў на абслугоўванне гаспадарак, іх меліярацыйных сістэм. Але з-за адсутнасці грошай гаспадаркі марудзяць з дагаворамі. Між тым, па планах меліяратараў, сёлета пад сваю апеку яны возьмуць 2,5 млн. гектараў плошчаў (у мінулым годзе было толькі 1,5 млн. гектараў). Пакуль жа дагаворы заключаны на абслугоўванне толькі 800 тыс. гектараў. Па словах М. Паліўкі, найбольш цяжка гэты працэс ідзе ў Гродзенскай, Мінскай і Брэсцкай абласцях, лепш — у Магілёўскай, дзе ўжо 84 працэнты гаспадарак заключылі пагадненні з меліяратарамі. Зрэшты, час яшчэ ёсць, і тлее надзея, што выйсце з гэтага становішча будзе знойдзена.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Уладзімір ГАРКУН:

# «Рэформы ідуць. Але палітыка ўрада заключаецца ў тым, каб не раскідаць калгасы»

**— Алё! «Прамая лінія»? Турбуюць са Стаўбцоўскага раёна, вёска Шашкі... Баравая Лідзія Андрэеўна. Наконт зямлі хачу запытацца. 24 соткі там у мяне. А прапіска — мінская. Хачу ўзяць яшчэ зямлю.**

— Але фактычна па закону вам болей і нельга.

**— Але ж нас некалькі чалавек, на якіх апісаны дом... І на ўсіх нас, сясцёр, калі падзяліць, то зямлі той прыпадае на кожную ўсяго некалькі сотак.**

— Я адказваю вам па закону. Жыхары, якія жывуць у вёсцы, маюць права атрымаць да 1 гектара. Дачнікам, якія жывуць у Мінску, 10 сотак — на сям'ю. Калі ў вас аформлены 4 сям'і, то вам абавязаны выдаць 40 сотак. Гэта што па закону. Але ніхто не пакарае мясцовы сельскі Савет, калі там — па магчымасці, зразумела, — выдзеляць больш. А ў Шашках, наколькі я разумею, хоць там і вялікая вёска, зямля ёсць. Але ж звярніцеся спярша ў сельскі Савет. І толькі калі ўжо там не дапамогуць — напішыце на маё імя ліст. Я паспрабую. Але спачатку паспрабуйце вырашыць пытанне на месцы.

**— Калгас Ільіча. Мы здалі цялят. Але грошы не атрымалі.**

— Чаму тады мяне пытаецеся? Вы ж не ў рэспубліку здавалі. Свайму калгасу здалі — у яго і пытайце. Я ж па-іншаму адказаць не магу. Зразумела, што патрэбны калгасныя грошы. А іх няма.

**— І зарплаты няма ў калгаснікаў...**

— А кім вы працуеце? Не працуеце? Тады пра якую зарплату весці гаворку? Каб былі грошы — трэба, каб было мяса, малако, трэба прадаваць і першае, і другое. Іншая справа, калі вы скажаце, што гаспадарцы вінаваты за рэалізаваную прадукцыю. Тады можна шукаць выйсце, патрабаваць нешта з малочнага ці мясаперапрацоўчага камбінатаў. Вы чакаеце дакладнага адказу ад урада. Але ж і на месцах трэба нешта вырашаць. Увогуле, раскажыце пра гаспадарку. Што яна сабой уяўляе?

**— Прыблізна сто свіней трымаем...**

— Магу адразу сказаць: калі сто свіней у калгасе, то лепей іх зусім не трымаць. Болей затрат, чым прыбытку. Вы гаворыце, што людзі працуюць? А можа, робяць выгляд? Мне складана адказваць. Канешне ж, не вінаваты радавыя людзі. Большасць залежыць ад арганізатараў. Абяцаю, што ў вас пабываюць нашы людзі. Паглядзяць, што там робіцца.

Але ж справа не ў адных камісіях. Гаворыце, што была прэзідэнцкая камісія, — і што ж вы не змаглі дайсці да іх? Калгас Ільіча, Сяліба, я вам абяцаю, што мы разбяромся.

**— Уладзімір Гіляравіч, у нашым калгасе імя Энгельса не выплачваюць зарплату...**

— Канешне ж, трэба, каб выплачвалі. Але павінны на месцы разбірацца. А што ў вас за гаспадарка, што сабою ўяўляе?

**— Разваленая гаспадарка...**

— Калі гэта поўны адказ, то і ў мяне будзе таксама поўны: гаспадарка развалена — значыць, грошай не будзе. Давайце прама гаварыць, адкуль у такім разе зарплаце ўзяцца. Каб атрымліваць нешта — трэба ж і зарабляць. І што там зараз — ёсць у вас работа? Гуляеце ў асноўным?

**— Рэдка...**

— Ізноў камісію пасылаць? А што яна там знойдзе? Ці як вы лічыце?.. Цяжка вырашаць на адлегласці. Паспрабуем разабрацца... Але ж і самі думайце. Колькі ў вас у калгасе бульбы пасаджана? Восем гектараў?! Дарагія мае, там, дзе восем гектараў пасадзілі бульбы, задаваць нейкія пытанні на ўсю рэспубліку і не варта. Без грошай, ясная справа, вы будзеце. І чаго мне ехаць, прабачце, глядзець. Вы ж выбіраеце старшыню...

***(P.S. За час, пакуль рыхтавалася ў друк «Прамая лінія», у рэдакцыю прыйшоў адказ, што ў калгасе імя Энгельса на справаздачна-выбарным сходзе выбраны новы старшыня. Калгасу за кошт бюджэта, крэдытаў банка аказана дапамога. Запазычанасць па зарплаце ліквідавана за 1995 год і студзень 1996 года.)***

**— Лінькоў Міхаіл Васільевіч, фермер...**

— Слухаю вас.

**— Я хацеў бы папытацца адносна 10-працэнтнага падатку пры пакупцы гербіцыдаў.. Стрымлівае гэта, прызнацца.**

— Я ведаю гэта пытанне. Будзем працаваць над ім... Дарэчы, колькі ў вас гектараў зямлі?

**— Дваццаць гектараў.**

— Ці можна, скажам так, выжыць? Цяжка, відаць...

**— Складана. Даводзіцца яшчэ нечым займацца.**

— Што ж, жадаю вам поспехаў.

— Добры дзень. Гаркун вас слухае. Адкуль звоніце?

**— Сапожнікаў вас турбуе... Хацеў бы пацікавіцца, што з меліярацыяй будзе? Што з новымі аб'ектамі? Ці будзем сёлета іх асвойваць?**

— Яснасць тут поўная. Ніякіх новых аб'ектаў. І толькі падтрымка і рэканструкцыя існуючага. Нават калі б мы хацелі і маглі новым займацца, то, пагадзіцеся ж, лагічней прывесці ў парадак існуючыя меліярацыйныя сістэмы. Канешне ж, і тут грошай не хапае. Але якраз гэтым будзем займацца. Не чакаць жа, пакуль усё будзе парушана ўшчэнт. Што датычыцца аб'ёмаў, то будзем займацца на ўзроўні мінулага года.

**— Вы не маглі б назваць колькасць фермераў на Беларусі?**

— Тры тысячы фермераў на Беларусі. Практычна апошні год стаім на адным узроўні. 20—30 гектараў у сярэднім мае фермер. Дапускаецца — да 50 гектараў.

**— Якія ёсць ільготы ў фермераў?**

— Першыя тры гады фермеры вызваляюцца ад уплаты падатку на зямлю. Акрамя таго, яны маюць права на льготныя крэдыты. Праз тры гады працы ўмовы для фермераў такія ж, як для ўсіх. І прыемна, што ў многіх і ў складаных умовах добра атрымліваецца. Нядаўна слухаў па «Радыёфакту» пра лётчыка, які сказаў, што за зямлю трэба трымацца, сам узяў сабе некалькі гектараў, стварае фермерскую гаспадарку. Такія прыклады радуюць.

**— Міхаіл Мікалаевіч Антоненка, загадчык сектара сацыяльнай палітыкі і развіцця вёскі Беларускага навукова-даследчага інстытута эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу, кандыдат эканамічных навук, сябар Цэнтральнай рады Беларускай сялянскай партыі. Але ў мяне да вас, канешне ж, зусім не партыйна-палітычнае пытанне. Хутчэй — агульнага плана. Як вы асабіста ставіцеся да прыватнай уласнасці на зямлю?**

— Адназначна станоўча стаўлюся да прыватнай уласнасці на зямлю. Але ў мяне такое перакананне: трэба год-два-тры паглядзець, як фермер карыстаецца выдзеленым яму ў арэнду, а пасля ўжо, аналізуючы вынікі, аддаваць (або не) яму зямлю ў прыватную ўласнасць. Будзем прама гаварыць, што шмат у каго і не атрымліваецца.

**— Уладзімір Гіляравіч, і такое вось пытанне. У нашай краіне больш як 500 гаспадарак-банкрутаў. Так яны і будуць вісець на шыі ў дзяржавы?**

— Няпраўда. Такіх гаспадарак 340. Адказваю па сутнасці пытання. З такімі гаспадаркамі, канешне ж, трэба нешта вырашаць. Сёлета сышліся на наступным. У кожным раёне разгледзець адну з гаспадарак-банкрутаў, вырашыць далейшы яе лёс. Але паколькі сёння банкруцтва ўсе пужаюцца, і мне, канешне ж, гэтае слова таксама непрыемнае, то давайце весці размову пра санацыю — гэта значыць аздараўленне такіх гаспадарак. Якім жа шляхам? Наступным чынам — шляхам змены кіраўніцтва. Мажліва, месцамі распрададзім уласнасць гаспадаркі і ўсё. Вырашыць пытанне з даўгамі. І яшчэ — шляхам пошуку ўласнікаў на землі тых гаспадарак. Магчыма, узнікнуць дробныя прадпрыемствы, магчыма, парупяцца ў дадзеным выпадку фізічныя асобы. Але што галоўнае — дык гэта ўсебаковае вырашэнне праблемы. Тут трэба і пра людзей падумаць, і нейкім чынам падрыхтаваць іх да магчымага развіцця падзей.

**— Уладзімір Гіляравіч, вас турбуюць з Маладзечна. Паўленка Станіслаў Барысавіч. Пенсіянер. Мне хацелася б ведаць, як будуць складвацца ў нашай дзяржаве справы з рэфарміраваннем калгаснай сістэмы?**

— Я ўжо адказваў на ідэнтычнае амаль што пытанне, Станіслаў Фёдаравіч. Думаю, што вы прачытаеце ў «Звяздзе» мае адказы. Але гатовы яшчэ раз вярнуцца да пытання. Канешне ж, рэформы (а ў некаторых накірунках — і даволі рашучыя) нам патрэбны. Без рэфарміравання немагчымы рух наперад. Але давайце будзем рэалістамі. Хіба сёння фермеры сталі на змену калгасам? Хіба за кошт фермерскіх гаспадарак пераважна ідзе забеспячэнне сельскагаспадарчымі прадуктамі ўсёй нашай краіны? Зразумела, што не. Вось гэты аргумент і трэба ўлічваць, гаворачы пра рэфарміраванне аграпрамысловага комплексу.

**— Махнач Мікалай Паўлавіч, Уздзенскі раён. Уладзімір Гіляравіч, сёння многія выжываюць за кошт усялякіх падсобных цэхаў, шляхам наладжвання перапрацоўкі і малака і мяса на месцах. Ці падтрымліваеце вы гэты рух? Ці на карысць ён дзяржаве ў цэлым?**

— Сёння, скажу я вам так, добрая любая ініцыятыва, калі яна разумная, калі людзі бачаць рэальны плён сваёй працы, маюць прыбытак. І, зразумела, першымі па шляху стварэння ўласнай мікравытворчасці, стварэння ўласнай перапрацоўчай базы пайшлі самыя разваротлівыя, самыя гаспадарлівыя. Але не трэба ідэалізаваць гэтую сітуацыю. Вазьміце ліст паперы і палічыце, што танней абыдзецца — перапрацоўка ў малых аб'ёмах ці выкарыстанне абсталявання, рабочай сілы дзеля перапрацоўкі буйнамаштабнай. Як з падлікамі? Канешне ж, сабекошт у другім выпадку будзе нашмат меншы. Да таго ж — у нас буйнамаштабная перапрацоўчая галіна ўжо ёсць, існуе. Дык чаму мы павінны замест яе ўдасканалення шукаць нешта іншае? Але, безумоўна, маё перакананне не адмаўляе стварэння вытворчасці, перапрацоўкі малых формаў. Іншая справа, што ў кожным канкрэтным выпадку ўсё (у першую чаргу — затраты і магчымы прыбытак) трэба пралічваць, узважваць наперад.

**— Уладзімір Гіляравіч, адкажыце, калі ласка, на такое пытанне...**

— Хто і адкуль звяртаецца? Прадстаўцеся, калі ласка, каб я ведаў, з кім гаварыць, да каго звяртацца...

**— Барысаў Ілья Фёдаравіч з Бабруйскага раёна. Здараецца, бываю ў Мінску. Вяртаюся на электрычцы, пасля — на дызелі, дадому. Вакол чыгункі і далей — дачы, дачы, дачы... Ці так ужо выгадна дзяржаве раздаваць зямлю, каб людзі часам бязмэтна яе выкарыстоўвалі?**

— Не магу пагадзіцца з вамі, Ілья Фёдаравіч. Дарэчы, вы гарадскі жыхар, бабруйчанін?

**— Не, з вёскі.**

— Тады зразумела. Можа, дзе побач з вамі пасяліўся нядбайны дачнік, няўмела распараджаецца ў сваім агародзе?

**— Дапусцім, так.**

— Але ж не ўсе такія. Вы агледзьцеся наўкола. Людзі, як толькі яшчэ намёк на вясну ўбачаць, ірвуцца з горада на сельскую прастору. На шасці—дзесяці (а то і на чатырох) сотках гараджане літаральна цуды робяць, імкнуцца і бульбу на зіму з участка нарыхтаваць, і агародніну розную вырошчваюць. Ніводны метр зямлі ў пустку не ператвараецца. Такая апантаная праца — толькі на карысць. І дзяржаве, і самім людзям. І што яшчэ важна — у зносінах, кантактах з зямлёю, у працы на невялікіх участках мяняецца псіхалогія гараджан. Людзі пачынаюць разумець, колькі каштуюць бульба, агародніна, як няпроста вырасціць дрэва ці куст, дамагчыся, каб нешта яны прыносілі.

Тое, што тычыцца «задачвання», скажам так, тэрыторыі, тое, што ў калгасах-саўгасах адразаюць зямлю — і тут ёсць праблема. Але няхай жа бы самі калгасы-саўгасы эфектыўна яе выкарыстоўвалі. Часам у гэтым плане ёсць прэтэнзіі і да гаспадарак.

**— Мацюшэнка вас турбуе. З Пінска. Раней працаваў у сістэме меліярацыі. Зараз — на пенсіі. Можа, я і памыляюся, але мне здаецца, што ўсё ў гэтай справе спынена. А некалі ж такі махавік круціўся. І працавалі, і заробкі самыя высокія ў нашай галіне былі, калі параўноўваць з астатняй вёскай.**

— Як вас, прабачце, завуць?

**— Андрэй Паўлавіч Мацюшэнка.**

— І кім вы працавалі?

**— І дрэнаж укладваў, і на трактары гусенічным працаваў. А апошнія гады — электразваршчыкам.**

— Добра, Андрэй Паўлавіч. Відаць, што хлеба працоўнага вы паспыталі ўдосталь. Пра меліярацыю сёння мы ўжо гаварылі. Не буду паўтарацца. Зазначу толькі, што сённяшняя эканамічная сітуацыя прымушае нас займацца тым, што ёсць. На падтрыманне ў належным стане існуючых сістэм сродкі будзем выдзяляць з бюджэту. Але, мусіць, варта нагадаць і тое, што ў колішняй шырокамаштабнай меліярацыі былі і памылкі. Так што нават пры наяўнасці грошай трэба было б падумаць, ці ўвесь ранейшы вопыт варты пераймання? А што датычыць высокай заработнай платы, то сёння зарплата ўсюды нізкая. Вы ж бачыце, ведаеце, што робіцца ў калгаснікаў, рабочых саўгасаў... Але тут, у вашым пытанні, ёсць папрок не столькі ўраду, колькі кіраўнікам на месцах. У ПМК меліярацыі павінны шукаць шляхі заробкаў. Думаю, што часам і фермеры маглі б да вас па пэўныя паслугі звяртацца. Трэба думаць, як найбольш эфектыўна выкарыстоўваць тэхніку ПМК... Словам, неабходна варушыцца. Пры ўсёй складанасці сітуацыі рукі апускаць нельга.

**«Прамую лінію» правёў**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 71—72).**

# ПАЛЕШУКІ Ў ЧАКАННІ ПАВОДКІ ПЕРАЦЯГВАЮЦЬ СВАЕ ПАЖЫТКІ НА ГАРЫШЧЫ

**Калі верыць сіноптыкам, то значнага пацяплення трэба чакаць ужо ў бліжэйшы тыдзень. Прычым тэрміны раставання снегу і лёду абяцаюць быць даволі сціслымі. Таму і паводка можа прынесці немалую бяду. Каб да мінімуму звесці яе разбуральныя вынікі, выпрацаваць канкрэтныя меры дзеянняў у гэты няпросты час, у Столін на нараду сабраліся прадстаўнікі Палескага рэгіёна Брэстчыны.**

Мяркуючы па інфармацыі, падрыхтаванай кіраўніцтвам райвыканкомаў, затапленне рэальна пагражае немалым тэрыторыям Столінскага, Лунінецкага, Пінскага, Іванаўскага і Ганцавіцкага раёнаў. Ужо цяпер тут шмат зроблена для памяншэння эканамічнага ўрону і абароны людзей ад вялікай вады. У вёсках створаны дадатковыя запасы прадуктаў харчавання і тавараў першай неабходнасці. Дарэчы, мяркуецца, што, напрыклад, у Столінскім раёне можа быць адрэзана ад райцэнтра да трох дзесяткаў вёсак, а ў Лунінецкім — трынаццаць.

Старшыня Брэсцкага аблвыканкома Уладзімір Заламай, які ўдзельнічаў у нарадзе, паставіў нямала пытанняў і перад прыехаўшымі сюды кіраўнікамі абласных службаў, якім трэба будзе змагацца са стыхіяй. У прыватнасці, у Палескі рэгіён недастаткова завезена медыкаментаў і перавязачных сродкаў. Нягледзячы на цяжкасці з фінансамі, гэта праблема павінна быць вырашана неадкладна. З энергетыкамі дасягнута дагаворанасць аб бесперабойным забеспячэнні электраэнергіяй населеных пунктаў у зоне, дзе чакаецца вялікая вада. У выпадку непрадбачаных абставінаў ваенныя паабяцалі падключыць і свае перасовачныя электрастанцыі.

У цэлым па вобласці сфарміравана 35 падрыўных каманд, якія будуць ліквідоўваць ледзяныя заторы ля мастоў. У іх распараджэнне выдзелена сем верталётаў.

Адной з галоўных праблем сёння, як падкрэслівалі ўдзельнікі нарады, з'яўляецца востры недахват грошай. А на набыццё паліва, адпампоўванне вады, падвозку шчэбеню і іншых матэрыялаў іх спатрэбіцца нямала. Што ж датычыць палешукоў, якія яшчэ добра памятаюць аб горкім вопыце паводкі ў 1979 годзе, то яны перацягваюць свае пажыткі на гарышчы. А каля паромных пераправаў і мастоў пачалі разбураць лёд.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

# Незавершанае будаўніцтва пакуль застаецца «на прыколе»

**Паводле даных Міндзяржмаёмасці, Мінскі абласны камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі падрыхтаваў спіс аб'ектаў незавершанага будаўніцтва па Мінскай вобласці, каб выставіць іх на аўкцыён у красавіку месяцы бягучага года.**

Але, як растлумачыў карэспандэнту «Звязды» намеснік старшыні Мінскаблкаммаёмасці Валянцін Маханькоў, аб поўным завяршэнні падрыхтоўчай работы над спісам не можа быць і размовы. Гэта звязана з тым, што па сямі аб'ектах незавершанага будаўніцтва паміж мясцовымі выканкомамі і камітэтам не дасягнута згоды наконт іх ацэнкі. А ў сувязі з тым, што працэс ацэнкі аб'ектаў нерухомасці з'яўляецца вельмі працаёмкім і працяглым, то, на думку Валяціна Паўлавіча, аўкцыён у красавіку, хутчэй за ўсё, не адбудзецца.

У Міндзяржмаёмасці таксама паведамілі, што Брэстаблкаммаёмасць узгадніў праграмы прыватызацыі гаррайвыканкомаў Лунінца, Драгічына і Жабінкі і падрыхтаваў праекты прыватызацыі дзевяці аб'ектаў абласной камунальнай уласнасці для продажу іх на аўкцыёне. А Віцебскаблмаёмасць склаў пералік аб'ектаў камунальнай уласнасці да праграмы прыватызацыі на 1996 год.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# Благая вестка з вуліцы Гурскага

На станцыі метро «Кастрычніцкая» мне ўручылі паперу з надрукаваным тэкстам. Царква евангельскіх хрысціян запрашала наведаць яе сходы. Я вырашыў наведаць. Тым больш, просяць далікатна, хоць і даволі настойліва. Тым больш цікава. Побач з пасёлкам, дзе я нарадзіўся, ёсць вёска. Там была секта штундыстаў. Запомніўся арэол таямнічасці вакол гэтых людзей. Я не ведаю, як яны трапілі ў нашу мясцовасць: штундызм распаўсюджваўся з нямецкіх калоній у Расіі і на Украіне. Верагодна, гэтак жа, як і стараверы, што жывуць у Веткаўскім раёне.

## БРАТЫ І СЁСТРЫ

У адрозненне ад каталікаў і праваслаўных службы (ці сходы) царква евангельскіх хрысціян праводзіць не кожны дзень. Расклад, я сказаў бы, падагнаны пад патрэбы веруючых. На тыдні бывае адзін сход у сераду, затое ў выхадныя — ажно па тры: у 9, 12, 15 гадзін дня. Як гаворыцца, у суботу і нядзелю Богу — Богава.

Зноў жа, прыстасавана для зручнасці веруючых. Не паспеў да 9, калі ласка, прыязджай у 12. Увогуле, гэта характэрна для пратэстантызму, а евангельскія хрысціяне — гэта ён і ёсць, адна са шматлікіх плыняў...

***РЭТРАСПЕКТЫВА. Пратэстантызм — адзін з трох галоўных накірункаў хрысціянства.*** *Па сутнасці, гэта сукупнасць мноства самастойных цэркваў і сектаў, якія бяруць свой пачатак у Рэфармацыі. Быў такі антыкаталіцкі рух у Еўропе XVI стагоддзя. У 1526 годзе Шпеерскі рэйхстаг па патрабаванню нямецкіх князёў-лютэран прыняў пастанову аб праве кожнага нямецкага князя выбіраць рэлігію для сябе і сваіх падданых. Аднак 2-і Шпеерскі рэйхстаг гэту пастанову адмяніў. У адказ 5 князёў і шэраг імперскіх гарадоў выказалі «пратэст», адсюль і пайшоў тэрмін «пратэстантызм».*

На вуліцу Гурскага — там размешчана Мінская царква евангельскіх хрысціян, будынак мадэрновага выгляду — я прыехаў, калі сход ужо пачаўся. Спяваў хор. Чалавека, які прывык да традыцыйнай царквы, тут усё, мякка кажучы, бянтэжыць. Тут — проста. Зала нагадвае Дом культуры. Веруючыя сядзяць у крэслах. Перад імі — эстрада з узвышэннем для хору. Ні ікон, ні нейкіх упрыгажэнняў няма. На сцэне намаляваны крыж, у цэнтры — белы голуб з зялёнай галінкай. У правым верхнім кутку — невялікі экран. Калі хор спявае, на экран з праектара пускаюць тэкст; не ведаеце слоў, можаце чытаць з экрана і падпяваць. Вельмі зручна.

Раз-пораз вядучы перарывае песнапенні і запрашае братоў і сясцёр памаліцца. Вядучы мне спадабаўся. Працуе даволі прафесіянальна і нагадвае канферансье. У сэнсе, добра адчувае аўдыторыю і даволі тонка рэгулюе яе эмоцыі. Скажам, у праваслаўі гэтага няма. Служба ідзе сама па сабе, веруючым прадастаўляецца самастойнасць: можаш маліцца, можаш так стаяць. У евангельскіх хрысціян ёсць элемент пэўнага прымусу.

Напрыклад, вядучы з усмешкай можа заўважыць, што «браты і сёстры мелі магчымасць сёння выспацца, а значыць, маліцца больш старанна». І ўсе ўстаюць і моляцца.

Прызнацца, знешне малітва крыху ўражвае. Кожны моліцца сам сабе: вочы заплюшчаны, рукі ўзняты ўгору, чуецца толькі роўны гул многіх галасоў. Побач са мною стаяў малады чалавек, ёнківаўся і завываў, прычым зусім натуральна. Верагодна, дасягнуў экстазу. Такіх, праўда, не так многа. Большасць паводзіць сябе даволі стрымана. Тут, думаю, справа ў ментальнасці беларусаў, якія саромеюцца публічнага праяўлення эмоцый...

***РЭТРАСПЕКТЫВА. Увогуле, пратэстантызм падзяляе агульнахрысціянскія ўяўленні аб быцці Бога, яго трыадзінстве (святы айцец, святы сын, святы дух), аб бессмяротнасці душы, раі і пекле і г. д.*** *Разам з тым пратэстантызм вылучыў тры новыя прынцыпы: выратаванне асабістай верай, свяшчэнства ўсіх веруючых, выключны аўтарытэт Бібліі. Згодна з пратэстантызмам, першародны грэх сказіў прыроду чалавека, пазбавіў яго здольнасці да дабра, таму ён можа дабіцца выратавання не з дапамогай добрых спраў, таінстваў і аскетызму, а толькі дзякуючы асабістай веры ў ахвяру Хрыста. Кожны хрышчоны хрысціянін, калі можна так сказаць, мае права на асабістую сувязь з Богам без пасрэднікаў.*

## «ЦУДА СВЯТОГА ЁРГЕНА»

У песнапеннях і малітвах — перапынак. Вядучы запрашае падняцца на сцэну тых, каму малітвы дапамаглі пазбавіцца хвароб. Здагадка, якая блукала па завулках свядомасці, нарэшце афармляецца ў думку: сход хрысціян чымсьці нагадвае сеансы Кашпіроўскага.

Памятаеце? Гучыць расслабляючая музыка, Кашпіроўскі гаворыць замагільным голасам, потым пачынаецца дэманстрацыя вылечаных. Некаторае падабенства са сходам евангельскіх хрысціян несумненна ёсць. Сёння было чацвёра вылечаных, усе — жанчыны.

Адна за адной яны выходзяць на сцэну. У першай быў астэахандроз шыі. Двухдзённыя малітвы, па словах жанчыны, прынеслі свой плён: сёння яна прачнулася і ў яе нічога не балела. Другая пазбавілася болей у сэрцы. Бабуля з прыметамі істэрычкі вылечылася ад цэлага шэрага хвароб: ноччу ёй быў голас «Устань!», яна ўстала і пайшла і адчувала сябе здаровай. Парадавала дзяўчынка гадоў 17-ці; у яе забалеў жывот і яна пачала старанна маліцца. Як можна было здагадацца, болі сціхлі.

Верагодна, адчуўшы пэўную штучнасць сітуацыі, вядучы паспяшаўся ўнесці карэктывы. Не трэба, зазначыў ён, падыходзіць так утылітарна: памаліўся — і здаровы. На сходы трэба хадзіць пастаянна, пастаянна ж і маліцца, а не калі прыцісне. І ўсё гэта з усмешкай: маўляў, разумею вашы цяжкасці, але зразумейце і мяне. Ну што ж, даволі дэмакратычна...

***РЭТРАСПЕКТЫВА. Уласна, евангельскія хрысціяне, ці евангелісты — адно з цячэнняў пратэстантызму, блізкае да баптызму.*** *Праўда, у адрозненне аб баптыстаў, вераўчэнне евангелістаў грунтуецца на евангеллях. Евангелісты лічаць, што выратаванне ўжо адбылося і ўсе, хто верыць у Хрыста, выратаваны. Выратаванне даецца чалавеку без усякага садзейнічання з яго боку, пры дапамозе адной толькі веры ў ахвяру Хрыста. У Расіі евангелісты з'явіліся ў другой палове XIX стагоддзя пад назвай рэдстакістаў (па прозвішчу лорда Рэдстака, які ў 1874 годзе распачаў прапаганду евангелізму ў Пецярбургу). Зараз іх абшчыны распаўсюджаны на тэрыторыі ўсіх краін СНД.*

## СЛОВА БОЖАЕ

Хто складае асноўны кантынгент евангелістаў? Гэта няцяжка высветліць візуальна. Скажам, што датычыць узросту, то гэта пераважна людзі ад 20 да 45 гадоў. Даволі многа моладзі. Мне крыху дзіўна за ёю назіраць: як бачна, да веры яна ставіцца даволі сур'ёзна — артыстычна сыграць страснасць малітвы цяжка, тут усё навідавоку. Хапае дзяцей; для іх тут працуе нядзельная школа. Кідаецца ў вочы: дзеці паводзяць сябе зусім па-даросламу — ніякіх капрызаў і слёз. Дысцыплінаваныя дзеці.

Я не заўважыў на сходзе надта забяспечаных людзей, якіх можна аднесці да катэгорыі «новых беларусаў». Апошнія, па-мойму, не вераць ні ў Бога, ні ў чорта, а іх паходы ў царкву — не больш чым даніна модзе. Евангелісты — гэта людзі сярэдняга ці ніжэй матэрыяльнага дабрабыту.

Пажылых адносна мала. Думаю, гэта не выпадкова. Па сутнасці, пратэстантызм — з'ява заходняя, еўрапейская, нейкім чынам не адпавядае нашай ментальнасці, традыцыі. А, як вядома, старыя да новага ставяцца крыху кансерватыўна. У адрозненне ад моладзі, як бы запраграміраванай на ўспрыманне новых формаў. Моладзь таксама ж імкнецца растлумачыць сэнс жыцця некалькімі катэгарычнымі, яснымі формуламі максімалісцкага характару. Гэта толькі ў старасці прыходзіць разуменне, што жыццё — не формула, а ўраўненне з многімі невядомымі...

***РЭТРАСПЕКТЫВА. Пратэстантызм зыходзіць з верацярпімасці.*** *Таму ў ім шмат цячэнняў і сектаў: метадысты, баптысты, евангелісты, мармоны, пяцідзесятнікі і г. д. У прынцыпе, ніхто супраць каго-небудзь не выступае, што адпавядае асноўнай ідэі пратэстантызму — супрацоўніцтву розных сацыяльна-эканамічных груп. Пратэстантызм нарадзіўся як патрэба ранняга капіталізму ў спрошчаным варыянце хрысціянства. Напрыклад, прэсвітэр (кіраўнік абшчыны) і пастар — пасады выбарныя і падсправаздачныя. Усё прыстасавана да патрэб штодзённага жыцця.*

Кожны сход завяршаецца словам Божым — пропаведдзю. Сёння яе чытаў пастар Дэвід з Англіі. Летась ён быў у Сібіры, і яго пропаведзь была насычана прыкладамі з практыкі евангелізацыі суровага краю.

Шчыра кажучы, мне гэта ўсё было не вельмі даспадобы. Неяк прымітыўна. Напрыклад, у горадзе Асбесце супраць дзейнасці пастара Дэвіда выступіў мэр. Праз два дні пасля ад'езду Дэвіда мэр загінуў у аўтакатастрофе. Пры гэтым прапаведнік задаволена засмяяўся, падтрыманы хорам (трэба думаць, актывістамі абшчыны). Канешне, без малітвы і Бога, які ўсё бачыць, тут не абышлося. Скажам так, не самы ўдалы прыклад.

Потым пастар Дэвід паведаміў сходу, што ў Еўпаторыі ён усталяваў добрае надвор'е, калі сіноптыкі абяцалі буру; што малітваю дабіўся пераводу грошай, патрэбных на фрахт самалёта, і г. д., у такім жа духу. Нават не ведаеш: смяяцца ці шкадаваць, што дарослыя людзі гавораць аб гэтым сур'ёзна. Увогуле, знаходзім знаёмую рысу — практычны характар вераўчэння евангелістаў: памаліўся — і грошы з'явіліся.

Канешне, не мая справа — займацца крытыкай евангельскіх хрысціян. У рэшце рэшт, яны самі разбяруцца ў сваёй веры.

Народ па-рознаму ставіцца да евангелістаў. З аднаго боку, яго крыху пужае некаторая іх агрэсіўнасць: я асабіста сутыкаўся з евангелістамі-агітатарамі ў метро, на прыпынках, і не магу сказаць, што мне гэта вельмі спадабалася. Нейкі час на вакзале часта можна было сустрэць жанчыну з фанатычным бляскам у вачах. З Бібліяй у руцэ яна заклікала ўсіх паверыць у Бога і тым забяспечыць сабе выратаванне.

З другога боку, на сходзе ясна адчувалася, што людзі тут у адносінах паміж сабою — далікатныя, уважлівыя і, я сказаў бы, асцярожныя без штучнасці. Мне расказвалі пра выпадак у Мазыры, калі жанчына абегала вёску ў пошуках машыны, каб адвезці хворага мужа ў бальніцу, і ніхто ёй машыну не даў. А далі без слоў мясцовыя баптысты, дарэчы, вельмі блізкія да евангелістаў.

Шырока вядома, што гэтыя людзі выдатныя работнікі, прынцыпова не ўжываюць алкаголю, тытуню, наркотыкаў. І я не ведаю, што тут дрэннага. Можа, гэта крамольна, але, думаю, можна паставіць на тэлевізар чабурашку і маліцца на яго. Важна пры гэтым заставацца чалавекам. Як верыць — па праваслаўнаму, каталіцкаму ці пратэстанскаму абраду, — справа густу і звычак, і справа другасная. Бо, як мне здаецца, галоўны вынік стагоддзя не ёсць вынік тэхналагічны, матэрыяльны, а, як гэта ні парадаксальна, маральны.

Трэба ясна разумець: без цярпімасці рэлігійнай, нацыянальнай, інтэлектуальнай, урэшце, экалагічнай, — нас чакае тупік і катастрофа. Канец свету.

Думаю, зараз ёсць сэнс зыходзіць толькі з гэтага.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

ПОГЛЯД

# Дзе скарб ваш, там і сэрца ваша

Калі пішаш артыкул на рэлігійную тэму, то стараешся згладзіць «вострыя вуглы», каб не пакрыўдзіць вернікаў, не абразіць іх рэлігійныя пачуцці. І ўсё ж часта нават дробязная крытычная заўвага ўспрымаецца балюча. Закранаеш святара — і тут жа веруючы чалавек крыўдуе. Маўляў, наш святар добры і чэсны чалавек. А часам нейкае крытычнае выказванне аўтаматычна пераносіцца на царкву, канфесію ў цэлым.

За апошнія гады роля святара ў нашым грамадстве значна вырасла. Царква выйшла, лічы, з падполля, у якім дзесяцігоддзі яе трымала атэістычная ідэалогія. Але ж і адказнасць святара перад людзьмі вялікая. Чалавек, які адпускае грахі вернікам і мае статус пасрэдніка паміж Богам і чалавекам, ускладае на сябе асаблівы цяжар гэтай адказнасці. Сан святара накладае і пэўныя абмежаванні ў асабістым жыцці. Часта ўзнікаюць калізіі, якія не дабаўляюць аўтарытэту святару. Напрыклад, ёсць спрадвечная праблема, якая не абмінула ўсе хрысціянскія канфесіі. Пытанне, ці можа духоўная асоба быць чалавекам багатым, застаецца адкрытым і сёння.

Мне даводзілася сустракацца з праваслаўнымі святарамі, якія натуральна ўпісваюцца ў акружаючае іх асяроддзе. Іх дамы ад суседніх адрозніваюцца не памерамі, а ўладкаванасцю ды чысцінёю. І людзі адклікаюцца пра сваіх пастыраў добра. Але ў той жа час нельга не звярнуць увагі на шыкоўныя катэджы, іншамаркі святароў, якіх невядома яшчэ што больш турбуе: праблемы царквы і веры ці камерцыя.

І ў каталіцкіх святароў на бытавым узроўні поўны парадак. Ёсць шафёр з аўтамашынай, прыслуга і стол з далікатэсамі. Хаця ксяндзы, не абцяжараныя сем'ямі, знаходзяцца ў больш выйгрышным становішчы.

Што датычыцца пратэстантаў, то адзін хрысціянскі прапаведнік выказаўся даволі канкрэтна:

— Каго Бог любіць, таму і дае, — сказаў ён і, паклаўшы руку з масіўным залатым пярсцёнкам на мезенцы на Евангелле, дадаў: — І Хрыстос нам сказаў: — Бо хто мае, таму дадзена будзе і памножыцца; а хто не мае, у таго адбярэцца і тое, што ёсць.

Сапраўды, можа нам толькі Новы Запавет адкажа, унясе яснасць: ці можа святар быць багатым чалавекам? І гэтае пытанне найперш хрысціянскай маралі, якая сёння робіць пэўны ўплыў на фарміраванне нашага грамадства.

***

Вучэнне Хрыста па сваёй сутнасці было рэвалюцыйным. І ўсю небяспечнасць яго адчулі адразу іудзейскія святары. Пагроза была не толькі для догматаў іудаізму, але і для саміх святароў. Тагачасныя духоўныя асобы жылі заможна, былі рабаўладальнікамі, а фарысеі нагогул прадстаўлялі рэлігійную абшчыну, якая прапаведавала заможнасць і абараняла інтарэсы заможных. І хаця іудзейскае духавенства ўяўляла сабой магутную рэлігійную касту, устаяць перад аргументамі Хрыста яму было цяжка. І не таму, што Ісус тварыў цуды. Моц пазіцыі Хрыста была ў тым, што Ён выступіў абаронцам бедных і абяздоленых. Пакутнікі, гаротнікі, нямоглыя бачылі ў ім свайго выратавальніка і заступніка.

— Ён сказаў у адказ: у каго дзве вопраткі, то аддай беднаму; а ў каго ёсць ежа, зрабі тое самае (ад Лукі, 3:11).

Хрыстос з тымі, ад каго ўсе адвярнуліся. І гэта не выпадкова. Бо і сам Ісус нарадзіўся не ў палацы, а ў хляве. І першымі, хто ўбачыў яго, былі не высокія саноўнікі, а пастухі. Ужо нараджэннем Хрыста Усявышні прадказвае, з кім Ён будзе на зямным шляху. Гэтым самым падкрэсліваецца другараднасць матэрыяльнага перад духоўным, як і паходжанне чалавека не з'яўляецца тут важным фактарам. Сам Хрыстос з сям'і цесляра, і яго вучні — простыя людзі. Яшчэ ўчора яны лавілі рыбу, а сёння ўжо «лаўцы душ чалавечых». І калі Ісус адпраўляе сваіх вучняў прапаведаваць, то наказаў ім нічога не браць у дарогу, акрамя аднаго кія: ні торбы, ні хлеба, ні медзі ў пояс, абувацца ў просты абутак і не насіць двух вопратак (ад Марка, 6-8:9).

За ўсё, што робіць Хрыстос для людзей, ён не патрабуе ад іх платы, і загадвае, каб і вучні прытрымліваліся гэтага.

Хрыстос пастаянна настаўляе людзей і павучае іх.

— Не можаце служыць Богу і мамоне (багаццю) (ад Матфея 6:24).

Найперш бедныя трапяць у Царства Божае, для іх адчынена брама раю. Пра гэта настойліва гаворыць Ісус. І Ён з імі. З грэшнікамі і гаротнікамі ён адпачывае, есць і п'е віно. Хрыстос ім сябар. А гэта найбольш абурае і непакоіць фарысеяў. У іх свае погляды на жыццё, яны кіруюцца законам сваіх бацькоў, а Новага Закона Хрыста не ведаюць і ведаць не хочуць. Запавет «Палюбі бліжняга твайго, як самога сябе» ім чужы. Ды і як палюбіць, калі гэты бліжні ляжыць у пыле, ля дарогі, і сабакі ліжуць струпы на яго целе. І ўжо зусім нельга выканаць настаўленне Ісуса: — Калі спраўляеш баль, кліч жабракоў, калек, кульгавых, сляпых (ад Лукі — 14:13).

Калі беднасць для чалавека — гэта дабро, то багацце — вялікая бяда. Так сцвярджае Ісус і выкрывае багатых.

— Наадварот, гора вам, багатыя! Таму што вы ўжо атрымалі сваю ўцеху (ад Лукі — 6:24). І тут выяўляецца, што для таго, каб трапіць у Царства Божае, мала выконваць запаветы Бога. Яшчэ неабходна быць і бедным. Калі багаты чалавек сказаў, што ён запаветы выконвае з маленства, то Хрыстос параіў:

— ...усё, што маеш, прадай і раздай жабракам, і будзеш мець скарб на небе... (ад Марка — 10:21).

Калі такія заклікі ў бедных маюць падтрымку, то ў багатых выклікаюць пратэст і поўнае непрыманне. І хаця Хрыстос раіць не збіраць сабе скарб на зямлі, дзе моль і ржа могуць яго знішчыць, а зладзеі ўкрасці, тым не менш думаць пра скарб на небе людзі не жадаюць. Зямное ім бліжэй. Моцна зніtаваны чалавек душой са сваім багаццем. І найчасцей яно валадарыць над сваім гаспадаром. Вось чаму мала надзей, што чалавек будзе больш думаць пра Бога, чым пра нажытае і здабытае. Бо сказаў Хрыстос свае знакамітыя словы:

— Дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша (ад Матфея — 6:21).

Але, вярнуўшыся ў наш дзень, нельга не звярнуць увагу на факт, калі пры ўсенароднай беднасці царква хіліцца да «сильных мира сего». Ды і яны шукаюць у царквы падтрымкі, найперш маральнай.

Па тэлебачанні паказваюць, як святар асвячае адбудаваны камерцыйны банк, нейкі шыкоўны офіс і г. д. Святар, сам таго не ведаючы, дапамагае рэкламе гэтага банка, бо ўсё ўжо аплачана.

Відавочна, тут лепшым прыкладам будзе рэакцыя Хрыста, які, стоячы каля ахвяравальніка, убачыў, якую вялікую ахвяру паклаў багаты чалавек і зусім мізэрную аддала бедная ўдава. — Калі багаты даў ад свайго лішку, до ўдава ад беднасці сваёй — сказаў Хрыстос, — і яе дар больш прыемны Богу.

Царква павінна быць найперш з беднымі людзьмі. Падтрымліваць іх словам, а пры магчымасці — і матэрыяльна. Багатаму чалавеку ва ўсіх адносінах лягчэй, і калі ён звяртаецца да царквы, то дай Бог, каб гэта ішло ад патрэбы душы, а не ад жадання выглядаць рэспектабельна і модна.

***

Пасля Галгофы шэсце хрысціянства спыніць немагчыма. Першыя хрысціяне прытрымліваюцца вучэння Хрыста не толькі на словах, але і на справе. Іх праследавалі, рымляне абвінавачвалі іх у «нянавісці да роду людскога», і ўсё ж гэта быў залаты век хрысціянства, які працягваўся ўсяго некалькі стагоддзяў. У хрысціянскія абшчыны таго часу ўваходзілі ў асноўным бednякі, рабы ды рамеснікі. Старэйшыны (прэсвітэры) выбіраліся вернікамі з найбольш паважаных людзей. Але сітуацыя паступова мяняецца. Старэйшын выцясняюць прафесіянальныя святары. Адбываецца расслаенне, з'яўляюцца заможныя вернікі, і ўсё больш напластаванняў прыносіцца ў хрысціянства. А калі яно стала дзяржаўнай рэлігіяй Рымскай імперыі, царква неўпрыкмет заняла вядучае месца ў дзяржаве. Шэсце хрысціянства працягваецца, роля Ватыкана ўзрастае з кожным наступным стагоддзем, а разам з гэтым павялічваецца і скарб яго.

***

Калі чытаеш Евангелле, ловіш сябе на думцы, што многія пастулаты Хрыста цяжка прыстасаваць да нашага жыцця, альбо планка хрысціянскай маралі ўзнята празмерна высока. І хто, як не святар, павінен быць прыкладам для людзей, іх маральным арыенцірам? Хіба ж не святар павінен быць сярод нямоглых, абяздоленых і пакутуючых? Яго чакаюць у бальніцах, дамах для састарэлых, турмах... Цяжкая ноша, але чалавек, які ўзняў яе, трэба спадзявацца, зрабіў гэта не дзеля жывата свайго, а ў імя Хрыста.

А наконт выказвання хрысціянскага прапаведніка з залатым пярсцёнкам, то яно сапраўды належыць Хрысту, які расказаў прытчу пра сейбіта. Аналагічнае выказванне ёсць і ў прытчы пра таленты, але яны адносяцца да душы чалавека, да яго ўнутранага зместу: «...хто мае, таму дадзена будзе і памножыцца...» І тут штосьці дабавіць няма патрэбы.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# РЭЗАНАНС

## ЧЫТАЧЫ «ЗВЯЗДЫ» ПРА КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД

**ІНТЭРВ'Ю намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Ю. Г. Малумава «Звяздзе», апублікаванае 30—31студзеня гэтага года, выклікала вялікі рэзананс, у тым ліку ў чытачоў нашай газеты. Прапануем падборку водгукаў на гэтую публікацыю, а таксама на артыкул «Каму перашкаджае Канстытуцыйны суд?» М. Пастухова («Звязда» 8.02.1996).**

■

Хто ж павінен прывесці ў адпаведнасць з Асноўным Законам дзяржавы заканадаўчыя акты Вярхоўнага Савета, указы Прэзідэнта і пастановы ўрада, як не Канстытуцыйны суд? Калі на справе, а не на словах Прэзідэнт, урад і Вярхоўны Савет хочуць, каб Беларусь была сапраўды дэмакратычнай дзяржавай, то неабходна расшырыць правы Канстытуцыйнага суда, а не ліквідаваць яго. Дэмакратыя мае на ўвазе не столькі наяўнасць законаў, колькі іх выкананне. Якім бы ні быў закон, яго павінны захоўваць усе, у тым ліку і Прэзідэнт, і члены ўрада, і дэпутаты Вярхоўнага Савета і іншыя. Магчыма, у нас свая, асаблівая дэмакратыя?

Я ўпэўнена, што М. Пастухоў ведае адказы на пастаўленыя ім пытанні, проста яму патрэбна падтрымка радавых працаўнікоў, таму можаце лічыць, што я адназначна за тое, каб расшырыць правы Канстытуцыйнага суда, а не ліквідаваць яго.

Паважаны Міхаіл Пастухоў! Такія адносіны не толькі да Канстытуцыйнага суда — такія ж і да прафсаюзаў.

Я прашу перадаць М. Пастухову падтрымку ўсяго нашага калектыву.

**Алена ВЖЭЖОЎСКАЯ,**
**старшыня прафкома Брэстаблаграснаба.**

■

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь за параўнальна кароткі перыяд сваёй дзейнасці праявіў сябе як незалежны і прынцыповы судовы орган, які надзейна забяспечвае няўхільнае захаванне Канстытуцыі — Асноўнага Закона рэспублікі, якая абвясціла сябе унітарнай дэмакратычнай прававой дзяржавай.

Як юрыст, не магу не заўважыць высокі прафесіяналізм нашага Канстытуцыйнага суда, глыбокую прававую аргументаванасць прынятых ім рашэнняў. Менавіта гэтыя якасці ўжо цяпер выклікалі вялікую да яго павагу і міжнароднае прызнанне.

Дык хіба можна ставіць пытанне аб непатрэбнасці і ліквідацыі гэтага органа?

Крыўдна, што такое пытанне ўсё больш настойліва мусіруецца тымі, каму ён перашкаджае.

На мой погляд, было б у корані няправільным і згубным для законнасці ліквідаваць цяпер ледзь сцверджаны і такі неабходны нам орган, дзейнасць якога накіравана на выкананне такой важнай задачы дзяржавы, як ажыццяўленне кантролю за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў. Ліквідаваць Канстытуцыйны суд — значыць прыняць з дарогі тыя перашкоды, якія не дазволяць самавольна тлумачыць нормы Канстытуцыі. А гэта небяспечна адступленнямі ад закона, яго парушэннямі.

Вядома, што Канстытуцыйны суд не можа быць «флюгерам» і дзейнічаць у залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры. Для яго галоўнае — літара Асноўнага Закона. А «ўсякае прамое або ўскоснае ўздзеянне на Канстытуцыйны суд, звязанае з дзейнасцю па ажыццяўленню канстытуцыйнага кантролю, — запісана ў артыкуле 126 Канстытуцыі, — недапушчальнае і цягне адказнасць па закону». Можа таму ідэя ліквідацыі гэтага органа здалася некаторым прымальнай: ні ўздзейнічаць на яго, ні зрабіць яго «сваім» немагчыма.

Канстытуцыйныя суды здаўна існуюць у цывілізаваных краінах. Іх паважаюць перш за ўсё там, дзе неадступна падпарадкоўваюцца і свята шануюць саму Канстытуцыю. У ЗША, напрыклад, Канстытуцыя прынята больш як 200 гадоў таму назад. За гэты час у яе ўнесена толькі 27 самых неабходных паправак. Канстытуцыя гэтай краіны ні разу не мянялася ва ўгоду таму ці іншаму прэзідэнту. Народ традыцыйна шануе і беражэ прынцып непахіснасці канстытуцыйных палажэнняў, і на падставе Канстытуцыі выхавана не адно пакаленне законапаслухмянага грамадства.

Мы ж, ледзь паспеўшы растыражаваць сваю Канстытуцыю, пачулі меркаванні аб тым, што кагосьці ўжо не задавальняе тая ці іншая норма закона.

А хіба не адбіваюцца на складанасці цяперашняй прававой сітуацыі публічныя выказванні аб «дрэнных» і «добрых» законах, аб тым, што выконвацца павінны не ўсе, а толькі «добрыя» законы? Калі такія «перлы» могуць сабе дазваляць высокапастаўленыя службовыя асобы, то што ўжо гаварыць аб людзях простых? Ці можам мы дабіцца паважлівых адносінаў да законаў, калі будзем дзяліць іх на тыя, якія трэба выконваць, і тыя, якія выконваць не абавязкова?

**Рыгор МАРОЗ,**
**кандыдат юрыдычных навук.**

*г. Мінск.*

■

Лічу, што ўтварэнне КС Рэспублікі Беларусь згодна з патрабаваннямі Канстытуцыі з'яўляецца адным з найвялікшых дасягненняў нашага парламента папярэдняга склікання, а таксама нашых вучоных-юрыстаў.

КС — гэта адзін з гарантаў таго, што наша краіна можа стаць у сапраўдным сэнсе прававой дэмакратычнай дзяржавай, дзе ніколі не будзе дыктатуры.

Змест заключэнняў КС гаворыць аб высокай прынцыповай мужнасці і прававым прафесіяналізме яго суддзяў. Дай Бог ім і ў далейшым заставацца такімі.

Лічыў і лічу, што чым вышэйшую пасаду займае тая або іншая асоба, тым большую павагу яна павінна праяўляць да Канстытуцыі, законаў, і не толькі павагу, але рабіць усё ад іх залежнае для бездакорнага выканання іх як імі, так і іншымі асобамі, грамадзянамі. Іншы падыход да гэтай справы можа весці толькі да прававога нігілізму, прававой анархіі з адсюль вынікамі.

Ну і другое: а ў каго вучыцца простым людзям паважаць законы, выконваць іх патрабаванні, як спачатку не ў вялікіх чыноўнікаў дзяржавы?

Таму, на мой погляд, нават сама пастаноўка пытання аб скасаванні КС з'яўляецца праявай юрыдычнага нігілізму.

Станоўчы вынік работы КС гаворыць аб тым, што пытанне можа ісці толькі аб пашырэнні правамоцтваў КС (як у Малдове), але ні ў якім разе не аб скасаванні яго.

Таму я поўнасцю падзяляю думкі суддзі КС М. Пастухова і жадаю яму поспехаў на гэтай ніве.

**Л. ТРАФІМЧЫК, юрыст.**

*г. п. Іўе.*

■

Дзейнасць Канстытуцыйнага суда, які атрымаў вялікую вядомасць у апошні час прыняццем шэрага сур'ёзных рашэнняў па важнейшых пытаннях сацыяльна-палітычнага жыцця рэспублікі, прыцягвае да сябе пільную ўвагу не толькі юрыстаў, але і шырокіх колаў грамадскасці. І гэта зразумела. У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь Канстытуцыйны суд надзелены правам ажыццяўлення кантролю за адпаведнасцю ёй нарматыўных актаў любога дзяржаўнага органа, грамадскага аб'яднання і безагаворачнага пазбаўлення іх юрыдычнай сілы ў выпадку прызнання неканстытуцыйнымі. Іншымі словамі, Канстытуцыйны суд па сутнасці сваёй — гэта вярхоўны захавальнік законнасці ў дзяржаве, здольны пры правільным падыходзе да ажыццяўлення ўскладзеных на яго функцый паслядоўна ўмацоўваць устаноўлены правапарадак ці, наадварот, адступаючы ад свайго прызначэння, уносіць разлад у работу ўсяго дзяржаўнага механізма, ва ўзаемадзеянне заканадаўчай і выканаўчай уладаў.

Пакуль, на жаль, Канстытуцыйны суд, на маю думку, дабіўся поспеху ў апошнім. І як бы ні стараліся старшыня Канстытуцыйнага суда В.Г. Ціхіня, асобныя яго члены (у прыватнасці, доктар юрыдычных навук прафесар М.І. Пастухоў) запэўніць у адваротным, факт застаецца фактам — негатыўныя вынікі прынятых судом шматлікіх рашэнняў (толькі ў 1995 годзе ім падвергнута ацэнцы 26 нарматыўных актаў — сем законаў, дзве пастановы Вярхоўнага Савета, чатырнаццаць указаў Прэзідэнта і тры пастановы ўрада) намнога перавышаюць усё тое станоўчае, што яны маглі б даць, але з-за ўказаных абставінаў так і не далі.

Даволі неканструктыўную пазіцыю заняў Канстытуцыйны суд у пытанні легітымнасці Вярхоўнага Савета 12-га склікання пасля правядзення ў маі 1995 года выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета новага склікання. Справа ў тым, што ў кастрычніку мінулага года, прытрымліваючыся толькі яму зразумелай логікі, Канстытуцыйны суд прызнаў адпаведнай Канстытуцыі частку другую артыкула 7 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», якая ўстанаўлівала, што Вярхоўны Савет лічыцца правамоцным пры выбранні не менш як дзвюх трацей дэпутатаў Вярхоўнага Савета, што з'яўляецца прамым адступленнем ад літары і духу Асноўнага Закона Рэспублікі Беларусь.

Калі б Канстытуцыйны суд заняў прынцыповую пазіцыю, строга прытрымліваўся б Канстытуцыі, адпала б і неабходнасць у прыняцці Прэзідэнтам многіх указаў, мэта і задача якіх была ў прывядзенні ў адпаведнасць з патрабаваннямі жыцця асобных законапалажэнняў ва ўмовах фактычнай адсутнасці легітымнага Вярхоўнага Савета.

Ці ж можна пасля гэтага здзіўляцца, чаму на старонках прэсы ўсё часцей і часцей выказваецца неўразуменне: а каму, уласна, патрэбны такі Канстытуцыйны суд, ды і ці патрэбны ён наогул? У газеце «Звязда» пачатак палеміцы па гэтых пытаннях паклала інтэрв'ю намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ю.Г. Малумава, які лічыць, што сістэма раздзялення ўладаў зусім можа абысціся без такога органа, як Канстытуцыйны суд, паколькі дзейнасць яго носіць хутчэй палітычны, а не юрыдычны характар, што мала спрыяе ўмацаванню законнасці і правапарадку.

Цяжка пагадзіцца з М.І. Пастуховым у тым, што ўсякая прапанова ліквідаваць у нас у рэспубліцы Канстытуцыйны суд, чым бы яна ні выклікалася, ёсць не што іншае, як імкненне павярнуць гісторыю назад, падарваць прынцып раздзялення ўладаў, які з'яўляецца агульнапрызнаным прынцыпам дэмакратычнай дзяржавы.

Пакінем у баку палітычныя і ідэалагічныя аспекты гэтага тэзіса. Разгляд іх патрабаваў бы выхаду на праблемы, выказацца па якіх больш дэталёва аўтары не палічылі патрэбным. Адзначым толькі, што даволі дзіўным з'яўляецца сцвярджэнне аб больш прагрэсіўным характары буржуазнай дэмакратыі ў параўнанні з сацыялістычнай, у чым усім ходам сваіх разважанняў спрабуе запэўніць чытача М.І. Пастухоў, як і прызнанне ім абсалютнай, пазагістарычнай каштоўнасці тэорыі раздзялення ўладаў. Буржуазны дэмакрат займае тут прынцыпова іншую пазіцыю, чым сапраўдны сацыяліст. Але гэта так, дарэчы. Звернемся лепш да чыста юрыдычных пытанняў.

М.І. Пастухоў звязвае існаванне Канстытуцыйнага суда з неабходнасцю ажыццяўлення кантролю за адпаведнасцю Канстытуцыі законаў і іншых нарматыўных актаў, што прымаюцца ў рэспубліцы. Спасылаецца ён таксама на тое, што аналагічным шляхам ідуць і многія іншыя краіны, бо канстытуцыйныя суды існуюць больш чым у 80 дзяржавах свету. Што ж, гэта сапраўды так. Але чаму такі кантроль павінен ажыццяўляць менавіта Канстытуцыйны суд, а не які-небудзь іншы орган? Вядома, напрыклад, што ў ЗША і іншых органах англа-саксонскай сістэмы права канстытуцыйнага кантролю ўскладаецца на Вярхоўны суд, і інтарэсы справы ад гэтага ніколькі не церпяць. Так што Канстытуцыйны суд — гэта не панацэя ад усіх магчымых бед у сцвярджэнні канстытуцыйнай законнасці. Зусім магчымы і іншыя рашэнні. Улічваючы ж сумны вопыт дзейнасці нашага Канстытуцыйнага суда ў мінулым годзе, пошук іншых формаў канстытуцыйнага кантролю трэба лічыць даволі пажаданым. Пры гэтым зусім не абавязкова капіраваць Злучаныя Штаты Амерыкі.

І яшчэ адно меркаванне, што выходзіць за межы палемікі паміж двума названымі юрыстамі. У палітычных гульнях Канстытуцыйнага суда, як у люстэрку, адлюстроўваецца недасканаласць нашай Канстытуцыі. Больш чым двухгадовы вопыт яе прымянення паказвае, што многія палажэнні Канстытуцыі, прынятай без усенароднага абмеркавання і ў яўнай спешцы, далёка не самым дэмакратычным шляхам, маюць патрэбу ў істотнай перапрацоўцы. У поўнай меры гэта датычыцца і да раздзела аб Канстытуцыйным судзе.

У лістападзе мінулага года ў сваім звароце да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкі Усебеларуская асацыяцыя інвалідаў вайны, сур'ёзна занепакоеная сітуацыяй, што склалася ў рэспубліцы, выказала сваё меркаванне аб тым, як змяніць становішча да лепшага. Гаварылася, у прыватнасці, аб неабходнасці правядзення рэспубліканскага рэферэндуму па пытаннях унясення змяненняў у Канстытуцыю. Ідэя атрымала падтрымку Прэзідэнта. Наўрад ці ўзнікнуць якія-небудзь пярэчанні на гэты конт і ў Вярхоўным Савеце. Так што час губляць не варта. Трэба даць народу магчымасць сказаць сваё рашаючае слова.

**Уладзімір УХАЎ,**
**ваенны юрыст, член Усебеларускай асацыяцыі інвалідаў вайны.**

■

Мне вельмі прыемна было чытаць меркаванне суддзі КС Рэспублікі Беларусь Пастухова аб вяршэнстве Закона. Я цалкам падтрымліваю яго разважанні і высновы. Прынцып «рэвалюцыйнай (ці іншай) мэтазгоднасці» ўжо панаваў у нас. Вынік гэтага панавання ўсім вядомы. Суддзя Пастухоў добра абгрунтаваў і само існаванне Канстытуцыйнага суда, узгадаўшы сусветную практыку і выключныя функцыі такога суда.

З другога боку, як гэта юрыст, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета можа ствараць грамадскую думку аб непатрэбнасці законнага дзяржаўнага інстытута? Калі так, то (звычайна так бывае) дзяржаўныя служачыя як бы маюць права не падпарадкоўвацца рашэнням Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь.

Ці ўяўляе спадар Малумаў, якую «ланцуговую» рэакцыю ён выклікае?

Мне таксама крыўдна ўвогуле за судовую ўладу. Па словах Ю. Малумава, яе няма, але ж яна ёсць і свае функцыі ажыццяўляе. Так, вядома, магла б больш эфектыўна працаваць.

Толькі як? Калі ёсць шмат неадпаведнасцей у заканадаўстве, розныя тлумачэнні артыкулаў законаў. З другога боку, выканаўчая ўлада амаль што забылася на матэрыяльна-тэхнічныя патрэбы судоў. Я прапаную Юрыю Георгіевічу нават у Мінску паглядзець на будынкі судоў. Вядома, што і месца правасуддзя павінна выклікаць павагу.

Пакуль што гэтага няма. А калі загаварыць аб камп'ютэрах у судах, якія, вядома, неабходны, то кіраўнікі ўсіх судоў толькі сумна ўздыхнулі б.

Мая выснова такая, што ўлада ў дзяржаве такая, якую самі мы робім ці захоўваем.

Дарэчы, я не з'яўляюся работнікам суда.

**Валерый ГРЫЦУК,**
**старшы навуковы супрацоўнік АН Беларусі.**

*г. Мінск.*

■

Я не юрыст, не эканаміст, не гісторык і не палітолаг, але хачу адказаць М. Пастухову («Каму перашкаджае КС»). Калі адказаць адным словам, то ён (КС) перашкаджае тым, каму перашкаджае не толькі КС, ім перашкаджае ўсё беларускае — дэмакратыя, суверэнітэт, незалежнасць, мова, культура...

**І. КАНДРАЦЕНЯ.**

*Ганцавіцкі раён.*

■

Ці ў аднолькавым становішчы руская мова і беларуская? Няўжо Малумаў не чуе, як размаўляюць нашы людзі? І не па-руску, і не па-беларуску, а на «трасянцы». Няўжо цяжка вывучыць сваю мову, якую нам даў Бог? Гэта наша культура, наша краіна, і трэба іх паважаць!

Трэба шанаваць сваю родную мову. Культурны чалавек абавязкова ведае сваю мову. Хай ён хоць 5—10 моў ведае, але сваю — абавязкова!

Дай Бог нам лепшага.

**З павагай ваша чытачка**
**Таццяна ГАНЧАРОВА, пенсіянерка.**

*г. Мінск.*

■

Зазначу адразу, паважаны чытач, што я не маю юрыдычнай адукацыі, але да ўдзелу ў «Палеміцы юрыстаў» мяне падштурхоўвае вопыт дэпутацкай работы ў гарадскім і абласным Саветах. Менавіта там я меў добрую магчымасць пазнаёміцца з такой пазіцыяй людзей з юрыдычнай адукацыяй, якія ўсё спісвалі на заклікі прытрымлівацца «здаровага» сэнсу.

Калі менавіта такая думка будзе мець большасць у нашым парламенце, то можна толькі канстатаваць, што гэтаму саставу Вярхоўнага Савета задача пабудовы прававой дзяржвы не пад сілу.

**С. СТАНКЕВІЧ.**

*г. Слуцк.*

## ДЭПУТАТЫ НОВААБРАНАГА ГРОДЗЕНСКАГА АБЛСАВЕТА «СПАТЫКНУЛІСЯ» НА ВЫБАРАХ СВАЙГО СТАРШЫНІ

У аўторак на сваю першую сесію нарэшце сабраўся Гродзенскі абласны Савет апошняга, 22-га склікання. У яго саставе — 56 дэпутатаў, 34 крэслы, нягледзячы на ўсе галасаванні, застаюцца вакантнымі і ўжо наўрад ці будуць заняты. Тым не менш, дзякуючы парламенту, які зменшыў неабходны для пачатку работы кворум, «зялёнае святло» перад «нованароджаным» уключана.

Пасля таго, як мандатная камісія пацвердзіла паўнамоцтвы дэпутатаў, апошнія ўзяліся выбіраць свайго лідэра. На гэту пасаду былі вылучаны старшыня папярэдняга аблсавета, дэпутат парламента Сямён Домаш і дырэктар школы з Гродзенскага раёна Лілія Кашанкова. Кандыдатам далі слова, ў падтрымку кожнага з іх выступіла па некалькі чалавек. Затым намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Генадзь Карпенка давёў да ведама дэпутатаў меркаванне спікера парламента Сямёна Шарэцкага, які выказаўся ў падтрымку Домаша.

Пасля гэтага падняўся старшыня аблвыканкома Аляксандр Дубко. З ранейшых выказванняў і Аляксандра Іосіфавіча, і Сямёна Мікалаевіча вынікала, што ніякага процістаяння паміж двума галінамі ўлады і іх кіраўнікамі на Гродзеншчыне не існуе. Таму з невялікай рызыкай памыліцца можна допусціць: калі б А.Дубко сказаў, што гатовы і далей працаваць у цесным кантакце з С.Домашам, — лёс галасавання быў бы прадвызначаны. Аднак, не кінуўшы ніводнага папроку ў яго адрас, кіраўнік выканкома, тым не менш, засумняваўся, ці не будзе перашкаджаць Сямёну Мікалаевічу сумяшчэнне абавязкаў старшыні абласнога Савета і дэпутата парламента.

У выніку тайнага галасавання С.Домаш і Л.Кашанкова атрымалі адпаведна 26 і 27 галасоў «за». Для перамогі ж патрабавалася як мінімум 29 галасоў. Таму дэпутаты пайшлі па другому «кругу», пры гэтым, аднак, не памяняўшы «сцэнарый». Але і паўторнае галасаванне па кандыдатурах С.Домаша і Л.Кашанковай не вызначыла старшыню абласнога Савета. Вырашэнне гэтай праблемы дэпутаты адклалі на тыдзень. На тым і раз'ехаліся.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

ПОГЛЯД

# ЦІ АДСЕДЗІМСЯ?..

**ТАК АТРЫМАЛАСЯ, што ўвесь «першамайскі» тыдзень меў магчымасць без адрыву назіраць на экране тэлебачання разгортванне і трагічную развязку падзей у Дагестане. Спачатку за адсутнасцю якой-небудзь праўдзівай інфармацыі, потым за яўнай і непрыкрытай дэзінфармацыяй, што зыходзіла з афіцыйных крыніц, за прарывамі сумленных журналістаў да праўды аб гэтай трагедыі.**

І ўсё больш разумеў, што ўсе гэтыя гады чачэнскай вайны, заняты сваімі справамі і прыгнуты сваімі праблемамі і згрызотамі, проста не дапускаў блізка да душы і сэрца тое, што адбываецца ў Чачні, на тэрыторыі былога СССР, аб якім мы сёння так дружна шкадуем. Так, інфармацыяй валодаў, нешта разумеў, аб нечым здагадваўся, але блізка да сэрца і душы не дапускаў. Нейкі ахоўны інстынкт спрацоўваў, ці што яшчэ?

Але гэты тыдзень многае памяняў. Што ж гэта робіцца на свеце? Вайна няўхільна блізіцца да нашых хат. Палаюць бадай што ўсе ўскраіны былога СССР. І толькі наіўны чалавек можа меркаваць, што ёсць шанц адседзецца ў сваёй ціхай і талерантнай рэспубліцы, ціхенька прыгнуць галаву, не заўважаючы нічога. Не атрымаецца. Калі падзеі і надалей будуць так разгортвацца, не атрымаецца.

Таму і з'явіліся гэтыя нататкі, хаця можа падацца, што журналісту з правінцыі ўсё-такі мала дачыненняў да падзей на Паўночным Каўказе.

Усе мы помнім класічнае і лаканічнае ленінскае выказванне, што вайна — гэта працяг палітыкі, але іншымі сродкамі. Слушныя і сёння яго выказванні аб характары войнаў. Я згодзен і з тым, што пры пачатку якой-небудзь вайны бывае старана, на баку якой справядлівасць, і старана, якая ажыццяўляе несправядлівыя крокі. Ёсць агрэсар — і той, хто падвергся агрэсіі. Ёсць сепаратызм — і імкненне захаваць цэласнасць дзяржавы. Але калі вайна ўжо пачалася, такога размеркавання справядлівасці і несправядлівасці паміж двума бакамі зрабіць немагчыма. Гэта толькі ў раманах аб высакародных рыцарах можна прачытаць, як варожыя бакі паціскаюць адзін аднаму рукі альбо адзін бок дапамагае другому боку пры раненні ці хваробе. Цяперашняя вайна адразу набывае такі характар, што аднойчы, напачатку, пралітая кроў вядзе да новай і новай крыві, да новай і яшчэ большай нянавісці бакоў адзін да аднаго. Адсюль на Паўночным Каўказе з аднаго боку — удары звышсучаснай авіяцыі і ўстановак «Град» па мірных гарадах, з другога боку — выкарыстанне наёмнікаў, захоп заложнікаў у бальніцах. Хто тут больш вінаваты? Гэтага не вызначыць, напэўна, сам пан Бог.

Я магу зразумець дзевятнаццацігадовага салдата, які клянецца помсціць чачэнцам за смерць баявога сябра. Але я разумею і юнака-чачэнца, які страціў ад расійскай бомбы і маці, і сястрычку, і цяпер нясе ўзрыўчатку туды, куды яе загадалі занесці старэйшыя баевікі. Гэта кроў бясконцая, гэта вайна, якая не можа скончыцца сама па сабе. У гэтай вайне не будзе пераможцаў. Не скончыцца гэта вайна і таму, што той самы чачэнскі хлопчык ужо ніколі не забудзе пра загінуўшую сям'ю. Ён будзе помсціць і праз дзесяць, і праз трыццаць гадоў. Калі не загіне.

Сваю тэрміновую салдацкую службу я праходзіў на пачатку 70-х гадоў у мотастралковых войсках. Тады, дарэчы, не аднойчы даводзілася ісці ў атаку на ўмоўнага праціўніка пасля апрацоўкі абароны гэтага праціўніка залпам сістэмы «Град». Жудаснае відовішча. Літаральна выпаленая зямля. Дык вось, у нашай мотастралковай роце амаль што поўнага саставу, бо часць была разгорнутай, не кадраванай, служылі, як любіў паўтараць зампаліт на палітзанятках, «воіны адзінаццаці нацыянальнасцей». Шмат гаварыў зампаліт і пра дружбу народаў, і пра іншае, тады абавязковае. Але хапіла і некалькіх тыдняў службы ў роце, каб сам сабе я сказаў: «Ага». Дружба дружбай, але ў роце «воіны розных нацыянальнасцей» гарнуліся адзін да аднаго толькі менавіта па нацыянальнаму прызнаку. Больш таго, у роце існавала некалькі цесных груповак, кланаў, змацаваных менавіта сваёй нацыянальнай прыналежнасцю, якія стойка, нават да боек, адстойвалі сваю незалежнасць, свае правы, разам урывалі свой кавалак з таго небагатага, што даставалася салдату ў пяхоце. У такіх кланах, дарэчы, не існавала «дзедаўшчыны». «Дзед»-грузін мог паздзекавацца з «салагі» рускага ці ўкраінца, але свайго «салагу»-грузіна ён не чапаў ніколі. Наадварот, свайго ён адстойваў перад іншымі «дзядамі», перад афіцэрамі. Злітымі ў адзін кулак былі ў роце і грузіны, і армяне, і азербайджанцы, і казахі, гарнуліся адзін да аднаго прыбалты, як іх было няшмат, таму літовец і эстонец лічылі сябе землякамі. Збіраліся разам вечарамі нават украінцы, праўда, былі гэта ў асноўным прадстаўнікі Карпат і Закарпацця. Адзіныя, хто не меў у роце свайго згуртаванага і акрэсленага ў абароне і нападзе клана, — рускія і беларусы. Таму ім і даставалася больш за іншых.

Былі ў роце і чатыры чачэнцы. Няшмат, але іх не чапаў ніхто. Бо чачэнец у час бойкі станавіўся нейкім шалёным: адчуваючы, што ворагаў больш, ён ішоў напралом, замяняў малалікасць храбрасцю і адчаем. Помню, прыслалі з вучэбнага падраздзялення да нас маладзенькага чачэнца, а мо інгуша, тады разлічыць іх было цяжка. І неяк зампаліт заспеў яго ў ленінскім пакоі ў не адведзены для гэтага час. Сачкаваў «салага» ў той час, калі астатняя моладзь драіла падлогу ў спальным памяшканні. Што ён там яму сказаў, не ведаю, але чачэнец войкнуў. І літаральна праз хвіліну у ленінскім пакоі быў ужо ўвесь чачэнскі клан. Яны так дружна абрынуліся на лейтэнанта, што той вымушаны быў адступіць.

Ды, уласна кажучы, усе прадстаўнікі нашых ротных кланаў адчувалі сябе досыць камфортна. Была падтрымка землякоў, было адчуванне блізкага пляча. Немаглося толькі нам. Хаця, калі б рускія ці беларусы згуртаваліся, па колькасці сваіх кланаў яны пераўзышлі б усе астатнія. Але яднання ніякага не было. За два гады службы помню толькі адзін выпадак. Днявальныя з танкавай роты капітана Пакаташкіна (нават прозвішча помніцца) у сталовай не атрымалі ад хлебарэзаў і повараў ротны паёк. А хлебарэзы і повары былі спрэс армяне — адвечная іх вотчына ў пяхоце. Днявальныя абурыліся — армяне ім у каршэнь. І вось тут уся рота танкістаў, а чамусьці там былі толькі славяне, за рэдкім выключэннем, рынулася ў сталовую. Пагром быў поўны. Повараў і хлебарэзаў, панастаўляўшы ім сінякоў, панадзяваўшы ім на галовы бачкі з кашай, разагналі па падсобках, сталы перакулілі, катлы вывернулі. Полк застаўся без снедання. Але справу замялі — тады ж была «дружба народаў». Адзіны выпадак. І, як я сёння здагадваюся, не абышлася тут справа без самога Пакаташкіна, незадарма ж падбіраў ён у сваю роту выключна славян.

Было гэта ў пачатку сямідзесятых. Армія і потым гніла на корані, працвіталі ў ёй, не ў вярхах, а ў самым што ні на ёсць страі — хабарніцтва, п'янства, татальны крадзеж. І ці не стаў Афганістан у адной са сваіх падводных плыняў імкненнем унесці ў армейскія рады свежы струмень, падняць баявы дух, а адначасова і баявую гатоўнасць? За гады ж Афганістана праз тое пекла прайшлі дзесяткі тысяч.

Вось і да Чачні прыглядаюся сёння зусім з іншага боку. У Расіі, і гэта бачыць кожны, пачынаюць пераважаць сілы дзяржаўныя, нацыянал-патрыятычныя, калі не сказаць больш. Лунае ідэя новага збірання зямель вакол Масквы. Усё гучней разважаецца аб сферы інтарэсаў далёка за блізкім замежжам. Нехта і боты ў Індыйскім акіяне марыць памыць. Але з кім? Для таго, каб мары, памкненні і планы сталі рэальнасцю, патрэбен народ-кансалідатар. А яго пакуль што няма. Самі расіяне з трывогай і праматой гавораць аб размыванні рускай нацыі, аб страце ёю пазіцый ва ўсіх сферах жыцця. Якое грамадства — такая і армія. Армія. Колькі зараз да яе прыкавана зацікаўленых поглядаў. Ці здольная? Ці рашучая? Ці адпавядае амбіцыям палітыкаў?

А між тым афганскі вопыт сведчыць, што пры ўсіх стратах і правалах афганскае дзесяцігоддзе ўнесла ў грамадства і ў армію нямала станоўчага — з пункту гледжання генералаў. І найперш гэта самі «афганцы». Відаць, так Богам створаны чалавек і яго свядомасць, што час сцірае найперш негатыўнае. Мне давялося і даводзіцца шмат сустракацца з «афганцамі». Толькі рэдкія выключэнні, калі ў ветэрана бясслаўнай агрэсіі прысутнічае элемент пакаяння. Гэта сціраецца, гэта забываецца, застаюцца ўспаміны аб баявым братэрстве, аб загінуўшых сябрах, аб той атмасферы пастаяннай бяспекі і выкрышталізаванай гэтай небяспекай своеасаблівай вайсковай праўдзівасці. Гэта, напэўна, ахоўны інстынкт. Людзі падсвядома не ўспамінаюць, што яны былі забойцамі. Яны былі байцамі. Дзяржава старанна дапамагае гэтаму, прынамсі, у некаторых рэгіёнах былога СССР. Нядаўні юбілей ансамбля «Блакітныя берэты». Шчырыя песні пра баявое братэрства, пра загінуўшых сяброў, пра жорсткасць баёў. Нават здольнасць у песні назваць канкрэтную лічбу загінуўшых у Афганістане — 13.300. Але ні слова пра мільён жыхароў незалежнай дзяржавы — дзяцей, старых, не толькі ж «духаў», якія сталі вынікам агрэсіі. Ні слова. Гэта табу. Таму адназначна можна сцвярджаць, што ў цэлым вопыт, унутраная энергія «афганцаў», уся іх грамадская дзейнасць скіраваны і будуць скіраваны якраз на падтрыманне ідэй вялікадзяржаўнасці і пашырэння «сфер зацікаўленасці».

Мне здаецца, што вайна ў Чачні доўжыцца і не мае пакуль што канца яшчэ і таму, што гэта ж другі Афганістан, другая кузня кадраў. Вяртаюцца адтуль удзельнікі грамадзянскай па сутнасці вайны не з агрэсарам, не з чужым народам, а з тым, з кім сябравалі 70 гадоў. І зноў спрацоўваць пачынае ў ветэранаў ахоўны інстынкт. Самае страшнае, недарэчнае, жудаснае паступова забываецца — застаюцца ўспаміны аб загінуўшых сябрах, аб вайсковым братэрстве. «Рамантыка» вайны — рэч не такая ўжо і міфічная, калі да справы падысці з уменнем і грашыма. Як не міфічным мне здаецца і лозунг: «Чачня — як стымул адраджэння рускай нацыі».

Адраджэння, як яго разумеюць вялікадзяржаўнікі. Згуртаваны вакол ідэі сваёй месійнасці, здольны падагнуць суседзяў, а не растварацца ў іх, здольны забяспечыць сваёй маладой крывёй баявую, моцную, не раз'едзеную гуманістычнымі ваганнямі армію.

І нейкія тэндэнцыі ўжо намячаюцца. Расійская інтэлегенцыя, якая Дастаеўскага ўздымае, і справядліва, сусветным прарокам і тым, каб хаця б помніць галоўны яго заклік: ніякай шчаслівай будучыні не пабудаваць, калі хоць слязінка дзіцяці ў падножжы гэтай шчаслівай будучыні. Гэта не цытата, цытаты вельмі добра ў нас могуць прамаўляць. Дык зададзім сабе пытанне паводле Дастаеўскага: а колькі слязінак, ды што там слязінак, рэк дзіцячай крыві праліта ў чачэнскіх гарадах і селішчах, для таго каб...

Мы, беларусы, памаўчым. Не наша справа. Але ў Чачні па абодва бакі ваююць і беларусы. І панясуць, нясуць яны ў нашу талерантную рэспубліку не толькі другі «афганскі» вопыт і дух баявога братэрства. Але і вопыт тэрарызму, жаданне больш разлічваць на зброю.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА НОВЫ РАУНД ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ВАЙНЫ ЗША І КУБЫ

**ПРЫЧЫНАЙ яго паслужыў інцыдэнт, калі кубінскія знішчальнікі ракетным залпам знішчылі два грамадзянскія самалёты, пілатуемыя амерыканцамі кубінскага паходжання з ліку эмігранцкай арганізацыі «Брацтва выратавання». Усе чацвёра членаў экіпажаў абодвух самалётаў «Сэсна-337» мадэлі «Скаймайстар» загінулі.**

ЗША паспяшаліся абвінаваціць Кубу ў парушэнні палажэнняў міжнароднага права, якія забараняюць знішчэнне грамадзянскіх самалётаў. Куба са свайго боку абвінаваціла пілотаў «ва ўварванні ў паветраную прастору» і, больш таго, падкрэсліла, што сістэматычным парушэнням яе паветранай прасторы кубінскімі контррэвалюцыянерамі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі ЗША, павінен быць пакладзены канец.

Амерыкана-кубінскае процістаянне пачалося не сёння. Яно носіць зацяжны характар. Яно пачалося фактычна адразу ж пасля абвяшчэння «востравам Свабоды» сваёй незалежнасці. Былі ў гэтым працэсе і свае «пікі» напружанасці.

ЗША ў аднабаковым парадку ўвялі гандлёвае эмбарга супраць Кубы, імкнучыся да поўнай эканамічнай блакады ўпартага суседкі. Аднак на працягу ўсяго гэтага часу, нягледзячы на настойлівыя намаганні Вашынгтона прыцягнуць на свой бок іншыя краіны, гэта блакада так і засталася элементам толькі амерыканскай знешняй палітыкі. Хоць і ў ёй апошнім часам намецілася было пэўнае пацяпленне.

І вось новы крызіс. ЗША, не дачакаўшыся вынікаў расследавання, паспяшаліся выкарыстаць сваё старшынство ў Савеце Бяспекі ААН для асуджэння дзеянняў кубінскага боку. Пастаяннаму прадстаўніку ЗША пры ААН М. Олбрайт прыйшлося нямала папрацаваць, каб, пераадольваючы супраціўленне партнёра і пастаяннага члена Савета Бяспекі — Кітая, які сімпатызуе Кубе, дабіцца адабрэння Саветам Бяспекі заявы, у якой выказваецца «глыбокае шкадаванне» з прычыны таго, што здарылася.

Са свайго боку Куба выступіла з пратэстам, абвінаваціўшы ЗША ў злоўжыванні сваім статусам пастаяннага члена Савета Бяспекі. Куба запатрабавала тэрміновага склікання пасяджэння Генеральнай Асамблеі ААН з тым, каб у рамках дыскусіі па пытанні аб Дзесяцігоддзі міжнароднага права выкласці свой пункт гледжання на інцыдэнт, які адбыўся ля яе берагоў, і давесці да ведама сусветнага супольніцтва «доказныя аргументы справядлівасці сваіх дзеянняў».

У гэтым дэмаршы Кубу падтрымалі краіны Руху недалучэння і многія іншыя дзяржавы. У канчатковым выніку згадзіліся на правядзенне такога пасяджэння і ЗША пры ўмове, што кубінскі міністр замежных спраў будзе на ім не адзіным прамоўцам, а дэлегаты заслухаюць таксама і амерыканскі бок.

«Кубінскае пытанне», аднак, даўно стала неад'емнай часткай не толькі знешняй, але і ўнутранай палітыкі ЗША і шырока эксплуатуецца ў ходзе перадвыбарнай кампаніі ўсімі прэтэндэнтамі на пасаду прэзідэнта гэтай краіны. Цяпер вось Белы дом і кангрэс прыйшлі да высновы аб неабходнасці далейшага ўзмацнення палітыкі ў адносінах да Кубы.

Аб'яўленымі мерамі прадугледжваецца таксама ўвядзенне дадатковых абмежаванняў на перамяшчэнне кубінскіх дыпламатаў па тэрыторыі ЗША, расшырэнне праграм вяшчання на Кубу падрыўной радыёстанцыі «Радыё Марці», прыпыненне чартэрных рэйсаў паміж ЗША і Кубай і г. д. Ёсць і іншыя меры націску на Кубу. Сярод іх — выплата кампенсацыі сем'ям лётчыкаў-контрас, якія загінулі нядаўна, з фондаў кубінскіх авуараў у ЗША, замарожаных амерыканскім урадам (паводле некаторых ацэнак, яны складаюць каля 100 млн. долараў).

Інакш кажучы, ЗША яшчэ да завяршэння расследавання інцыдэнту ўжо вызначылі вінаватых — кубінскі бок — і гатовы распарадзіцца фінансавымі сродкамі іншай дзяржавы. Хоць, згодна з заявай кубінскага міністра замежных спраў, Гавана мае неабвержныя даныя для доказаў правамернасці сваіх дзеянняў у інцыдэнце. Сярод іх даныя радыёлакацыйнага сачэння за палётам амерыканскіх самалётаў, якія складаюць прадмет разбору, карты, запісы радыёперахватаў размоў паміж лётчыкамі і інш.

Улічваючы хітрасць амерыканскай эканамічнай дыпламатыі, было б дзіўным, калі б інцыдэнт, які паслужыў прычынай для новай хвалі такой шумнай антыкубінскай кампаніі, не быў бы выкарыстаны ёю і ў больш шырокіх мэтах. У прыватнасці, для стварэння дадатковых рычагоў уздзеяння на замежных партнёраў.

Характэрныя ў гэтым сэнсе частыя ўпамінанні ў амерыканскіх сродках масавай інфармацыі аб намеры Расіі аказаць Кубе садзейнічанне ў будаўніцтве атамнай электрастанцыі. І сапраўды, унесены ў сенат ЗША законапраект прадугледжвае магчымасць скарачэння эканамічнай дапамогі Расіі ў памерах, супастаўных з аб'ёмам расійскай дапамогі ў збудаванні на тэрыторыі Кубы аб'ектаў разведвальнага прызначэння, у рэалізацыі плана будаўніцтва на Кубе атамнай электрастанцыі, а таксама дапамогі і падтрымкі Кубы іншымі рэспублікамі былога СССР у гэтых праектах.

Справа, аднак, ускладняецца тым, што пагадненне аб эканамічным супрацоўніцтве з Кубай у апошні час рыхтаваўся заключыць і Еўрапейскі саюз. Пагадненне паміж Белым домам і Кангрэсам ЗША адносна гандлёвых санкцый супраць Кубы абвастрыла супярэчнасці паміж Вашынгтонам і яго еўрапейскімі партнёрамі, а таксама Канадай, якія не падзяляюць імкненне ЗША выкарыстаць гэты інцыдэнт для ўзмацнення эканамічнай блакады Кубы.

Імкненне ЗША апіраца ў сваёй знешняй палітыцы на санкцыі супраць «трэціх» краін часта прыводзіць да таго, што ў разрад пацярпеўшых трапляюць таксама «сябры», якія маюць уласныя віды на адносіны з дзяржавамі, ізаляцыі якіх ад знешняга свету дабіваецца Белы дом.

Вашынгтон ужо хоча, каб не толькі асобныя саюзнікі, але і ААН у цэлым прыняла дадатковыя меры, накіраваныя супраць Гаваны.

У сувязі з апошнім інцыдэнтам кубінскі бок спасылаецца, у прыватнасці, на той факт, што на працягу многіх гадоў грамадзянскія самалёты, якія ўзляталі з тэрыторыі ЗША, рабілі палёты над тэрыторыяй Кубы і скідвалі на цукровыя плантацыі і эканамічныя аб'екты выбуховыя ўстройствы і запальныя рэчывы, засылалі шпіёнаў і дыверсантаў. Ажыццяўлялі і дзеянні, якія характарызаваліся кубінскім бокам як вядзенне супраць Кубы біялагічнай вайны. Але Савет Бяспекі ААН заставаўся глухім да зваротаў і пратэстаў Гаваны.

Большасць дзяржаў—членаў ААН у прынцыпе выступаюць супраць гандлёвага эмбарга ў адносінах да Кубы. У лістападзе мінулага года Генеральная Асамблея, вось ужо чацвёрты год запар, абсалютнай большасцю галасоў зноў асудзіла эканамічную блакаду Кубы. Логіка тут ясная. Усе дзяржавы імкнуцца сёння да расшырэння супрацоўніцтва. Новыя «жалезныя заслоны», бар'еры і блакады — атрыбуты адыходзячага мінулага. Няхай яны ў мінулым і застаюцца...

**Анатоль БЕРАЗОЎСКІ,**
**уласны кар. «Звязды».**

*г. Нью-Йорк.*

## «КРАПІВА ВЯДОМЫ І НЕВЯДОМЫ»

Гэткую назву мае выстаўка, што адкрылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Дзве экспазіцыйныя залы апавядаюць пра цярністыя і трывожныя шляхі-дарогі Майстра. Ён жа, як мы помнім з біяграфіі, удзельнік чатырох войнаў — першай імперыялістычнай, грамадзянскай, фінскай і Вялікай Айчыннай. А яшчэ ж і «мірная» вайна была — змаганне за доступ да людскіх сэрцаў, за пераадоленне бар'ераў, якія штучна ўзводзіліся перад ім уладнымі ненавіснікамі.

Матэрыялы першай залы раскрываюць талент Крапівы-байкапісца, Крапівы-драматурга, празаіка. У другой зале — жыццяпіс вялікага грамадзяніна зямлі.

Асобная вітрына прысвечана сыну Барысу. Жыццё сваё ён аддаў у змаганні з фашысцкімі захопнікамі пад Сталінградам.

Куток рабочага кабінета... Стол, на ім пісьмовыя прылады. Крэсла, на яго «плечы» накінуты пінжак Творцы. Шчымлівая гэта аглядаць. Ліст паперы з выразным почыркам напісанымі (дарэчы, яшчэ не апублікаванымі) радкамі:

### РЭПАРЦЁР

*Як буду я ляжаць ужо ў труне,*
*Закончыўшы зямныя справы,*
*Ён заклапочаны, рухавы,*
*Падскочыць з мікрафонам да мяне.*
*І скажа: «Цесната! Я ледзь прабраўся.*
*Ну як вам мітынг спадабаўся?»*

Завяршаецца экспазіцыя сімвалічнай брамай неўміручасці. Каля яе высіцца знаёмая постаць Кандрата Крапівы (вялізная, большая чым у рост чалавека, фатаграфія). Побач — словы з камеды:

«Не можа быць, каб знік бясследна такі цуд, як чалавечае жыццё».

І не знікае. Сведчанне таму і выстаўка, прысвечаная 100-годдзю народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Кандрата Крапівы, класіка беларускай літаратуры. На ўрачыстасці ізе адкрыцця выступілі пісьменнік Лідзія Арабей, народны пісьменнік рэспублікі Янка Брыль, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН Беларусі Мікола Крыўко, унучка Крапівы Алена Атраховіч.

Стваральнік выстаўкі — вучоны сакратар музея Лідзія Макарэвіч і мастак Генадзь Чысты. У экспазіцыі выкарыстаны і многія рэдкія матэрыялы, ахвотна і любоўна прадастаўленыя нявесткай Крапівы Зояй Мікалаеўнай Атраховіч.

Свята дапоўнілі і «акрапівілі» сваімі выступленнямі слынныя акцёры Купалаўскага тэатра Генадзь Аўсяннікаў, Павел Дубашынскі і Генадзь Гарбук. «Гаварыў» са слухачамі і сам юбіляр —з магнітафонный стужкі гучалі байкі незабыўнага Кандрата Кандратавіча ў выкананні аўтара.

Сцяпан ІВАНЧЫК.

## НАПАДУ РЭКЕЦІРАЎ У ПОЛЬШЧЫ ЧАСТА ПАДВЯРГАЮЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ГРАМАДЗЯНЕ

Апошнім часам у Польшчы пачасціліся выпадкі разбойнага нападу на замежных грамадзян. У прыгранічных з Беларуссю раёнах ахвярамі такога нападу часцей за ўсё становяцца беларускія грамадзяне. Аб гэтым паведаміў БЕЛТА Генеральны консул Беларусі ў Беластоку Міхаіл Слямнёў.

Ва ўзнікшай сітуацыі Беластоцкая ваяводская камендатура паліцыі распаўсюдзіла спецыяльную памятку, якую апублікавалі мясцовыя газеты. Паліцыя рэкамендуе тым, хто прыязджае ў Польшчу:

— не браць у аўтамашыны выпадковых людзей;

— спыняцца толькі па патрабаванню супрацоўнікаў паліцыі ў адпаведным абмундзіраванні, а ў начны час - тых, хто знаходзіцца ў службовых аўтамабілях з надпісам «Паліцыя»;

— спыняцца толькі ў спецыяльна адведзеных для гэтага грамадскіх месцах;

— аб існуючай небяспецы неадкладна паведамляць сустрэчным паліцэйскім патрулям;

— у выпадку ўчынення злачынства неадкладна паведамляць у органы ўлады або бліжэйшае аддзяленне паліцыі.

Некалькі спецыфічных парад сваім суграмадзянам дае сам Генеральны консул:

— не размаўляйце гучна на роднай мове, бо гэта прываблівае грабежнікаў;

— не захоўвайце грошы і пашпарты разам. Ужо ў бягучым годзе ў генеральнае консульства ў Беластоку звярнулася звыш 70 грамадзян Беларусі, у якіх разам з грашамі выкрадзены дакументы;

— найбольш распаўсюджаны спосаб грабяжу - вырыванне з рук дарожных сумак і дамскіх сумачак. Таму старайцеся, каб у іх не было ні дакументаў, ні грошай. Іх пажадана захоўваць асобна ў менш даступных месцах.

БЕЛТА.

## Выданні FAO — беларускім аграрнікам

**Днямі Асацыяцыя садзейнічання ААН перадала Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэцы некалькі соцень адзінак замежнай літаратуры**

Бясспрэчна, каштоўнасць гэтых навуковых кніг, аглядаў апошніх дасягненняў у розных галінах сельскай гаспадаркі, аналітычных даследаванняў, статыстычных даведнікаў яшчэ і ў тым, што наша краіна, а дакладней — навукоўцы, спецыялісты-аграрнікі пакуль пазбаўлены магчымасці свабодна карыстацца падобнай літаратурай. Бо Беларусь яшчэ застаецца адной з нямногіх краін свету не членаў FAO — буйной міжнароднай арганізацыі сістэмы ААН, якая аб'ядноўвае вытворцаў прадуктаў харчавання і сельгаспрадукцыі амаль усёй планеты. Дарэчы, на апошняй сесіі FAO ў яе члены прыняты Грузія, Арменія, Азербайджан, Таджыкістан, Туркменістан. За права членства ў FAO трэба плаціць штогадовы ўзнос, а мы, як вядома, па прычыне нашага савецка-рэспубліканскага менталітэту вельмі эканомім на развіцці міжнародных кантактаў і, на жаль, нярэдка не на карысць сабе. Але гэта тэма асобнай размовы.

Дык вось, FAO выдае і распаўсюджвае сярод сваіх членаў шмат спецыялізаванай літаратуры і свежай інфармацыі. Да Беларусі даходзіць толькі яе мізэрная частка. Напрыклад, па лініі Асацыяцыі садзейнічання ААН, якая мае сувязі з дэпартаментам інфармацыі ААН, які ў сваю чаргу невялікімі порцыямі дасылае ёй у Мінск выданні FAO. Паступова іх колькасць перавалила за тры сотні. У гэтым, па словах яе прэзідэнта Віктара Іванова, тады задумаліся, каму лепш яе перадаць? І нарэшце спыніліся на Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэцы. Яна камплектуе і захоўвае айчынную і замежную літаратуру па ўсёй праблематыцы аграпрамысловага комплексу.

Яе дырэктар Уладзімір Голубеў высока ацаніў новае папаўненне фондаў. На яго думку, падораныя асацыяцыяй выданні набліжаюцца па свайму зместу і значэнню да дэпазітарнай бібліятэкі FAO. З ёй у бліжэйшы час плануецца наладзіць сувязі.

Між іншым, вывучэнне нашымі спецыялістамі, вучонымі статыстычных даведнікаў FAO дазваляе ім быць не толькі ў курсе аграрных навін планеты, але і ўсвядоміць сваё месца ў сусветным падзеле вытворчасці сельгаспрадукцыі. Напрыклад, спецыялісты па вырошчванню лёну не без здзіўлення даведаліся, што ў Індыі і Афрыцы паспяхова і ў вялікіх аб'ёмах займаюцца гэтай культурай.

Як адзначыў у час цырымоніі перадачы літаратуры Віктар Іваноў, усе атрыманыя па лініі FAO выданні будуць і надалей перадавацца ў гэту бібліятэку.

Леанід ЛАХМАНЁНКА.



НА ЗДЫМКУ: Галіна ЛІСОЎСКАЯ загадчык аддзела абслугоўвання з новымі даведнікамі.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

КРЫМІНАЛ

## НА СУВЯЗЬ НЕ ВЫЙШАЎ...

**Амаль як у класічным дэтэктыве разыграла «гопстопны» сюжэт чацвёрка гродзенскіх камбінатараў.**

Аперацыя па экспрапрыяцыі іншамаркі і сапраўды была добра падрыхтавана. Вельмі ўжо карцела нідзе не працуючым гродзенцам завалодаць «Опелем», які належаў жыхару прыгарадных Азёр. Ведаючы пра намер гаспадара прадаць легкавік, хутка ў яго доме з'явіўся пакупнік. Бакі сышліся ў цане. Заставалася толькі ўдарыць па руках і праверыць работу рухавіка на хутк асць. Але падчас выпрабаванняў ля «Опеля» нечакана прытармазіў шыкоўны «БМВ» з мігалкаю. З яго выйшаў сур'ёзны грамадзянін у цывільным, які, аднак, прадставіўся супрацоўнікам міліцыі і, трымаючы ў руцэ жазло, запатрабаваў ад прадаўца дакументы на іншамарку. А з імі якраз не ўсё было ў парадку (на што і разлічвалі зламыснікі).

Узяўшы ад уладальніка «Опеля» пісьмовае тлумачэнне, «супрацоўнік» аб'явіў, што часова затрымлівае машыну і, каб не даваць справе ход, намякнуў на пэўную суму ў «зялёных». Але запланаваная назаўтра сустрэча ля гатэля «Турыст», куды парушальнік павінен быў прынесці 300 долараў, не адбылася. Гэта выклікала ў яго спачатку здзіўленне, а потым і здагадку аб ашуканстве. Зварот да сапраўдных ахоўнікаў правапарадку толькі пацвердзіў нядобрае прадчуванне: «канфіскаваны» легкавік у міліцыі не знаходзіцца.

На шчасце пацярпеўшага, у той жа дзень іншамарку адшукалі, а «камбінатары» на чале з ілжэміліцыянерам апынуліся за кратамі.

Георгій СЫСОЙ,
прэс-служба Гродзенскага УУС.

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ІЛЖЭМІЛІЦЫЯНЕРАЎ

**У ноч з 11 на 12 сакавіка дзяжурны нарад гарадскога аддзела міліцыі № 1 Ленінскага РАУС г.Мінска на чале са старшым сяржантам Міхаілам Круглікам апэратыўна затрымаў парачку рабаўнікоў-ілжэміліцыянераў. Не абышлося нават без пагоні за тралейбусам, на якім спрабавалі ўцячы злачынцы.**

А пачалося ўсё на чыгуначным вакзале, дзе зламыснікі — адзін у форме лейтэнанта міліцыі, а другі ў камуфляжы — прычапіліся да госця сталіцы са Сляпянкі. Яны запатрабавалі ў мужчыны дакументы, але ў адказ пачулі, што іх няма. Узяўшы пад рукі сваю ахвяру, п'яныя зладзеі накіраваліся да Чэрвеньскага рынку. Па дарозе туды так званыя міліцыянеры адабралі ў спадарожніка 100 тысяч расійскіх і 40 тысяч беларускіх рублёў.

Неўзабаве каля камерцыйных кіёскаў маладыя злачынцы заўважылі за сабою пільную сочку з боку сапраўдных работнікаў праваахоўных органаў з ГАМ-1. Пакінуўшы ў спакоі пацярпеўшага, яны ўскочылі ў тралейбус... Ну а далей вы ведаеце.

Сяргей ХРЫПАЧ,
прэс-цэнтр МУС.

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...

## ПАСЛЯ ЛЕДЗЯНОЙ КУПЕЛІ ТРЭБА... ПАМАЛІЦЦА. НАВОШТА?

Скажыце, хто можа пахваліцца, што яму даводзілася купацца ў лютым марозе ў сажалцы ці рэчцы? Больш таго, пасля ледзяной купелі не скакаць, не бегаць, каб сагрэцца, нарэшце, не расціраццa ручніком, а абсыхаць... на марозе? Мне таксама не даводзілася прымаць гэтых працэдур, а вось мае добрыя знаёмыя і суседзі прайшлі праз такое выпрабаванне. І, як кажуць, не пад страхам смерці, а па добрай волі. Прытым гэта не якія-небудзь загартаваныя «маржы», а самыя звычайныя людзі: мастакі Сяргей Нядбальскі і Таццяна Сухадольская, слесар «Мінскпраектмэблі» Віктар Марозаў і іх сябры.

А падаў такую думку святы айцец Арсеній з Маскоўскай епархіі. Зацікаўлены, з якой цікаўнасцю мы (выхаваныя на атэізме) успрымаем яго расказы на рэлігійныя тэмы, ён прапанаваў з'ездзіць у Жыровічы, каб на саміх сабе адчуць хоць часцінку незвычайнага, зведаць жыватворную сілу святой вады тутэйшага манастыра. І так атрымалася, што выбраліся сюды ў адзін з марозных дзён ілютага, калі айцец Арсеній знаходзіўся ў Мінску у водпуску. Мне, на жаль, не давялося туды паехаць. Таму перадаю ўражанні сваіх сяброў.

Жыровіцкая купальня знаходзіцца ў вельмі маляўнічым месцы. Падымаешся на ўзгорак — і манастыр як на далоні. Пад узгоркам б'е крынічка, куды людзі прыходзяць па ваду, а побач пульсуе яшчэ адна. Яе манахі расшырылі і зрабілі купальню памерам прыкладна тры на тры метры і глыбінёй метра паўтара. Айцец Арсеній, калі вучыўся ў Жыровіцкай семінарыі, прыходзіў сюды купацца ўлетку і зімой, як і цяпер гэта робяць маладыя семінарысты. Купальня агароджана невысокім плотам. Ёсць і паветка, пад якой змайстраваны лаўкі для адзення і дошкі, каб на іх можна было стаць. У той дзень увесь вадаём быў пакрыты тоўстым ільдом, а дзве невялікія палонкі, як улезці, зацягнуты тонкім, як шкло, лядком.

Перад купаннем нашы паломнікі пабывалі ў семінарыі, манастыры. Іх вельмі гасцінна сустрэў айцец Мяфодзій, які ўсіх благаславіў. Потым пайшлі да купальні, аб якой увесь час думалі з хваляваннем. Прыклад паказаў айцец Арсеній. Ён распрануўся, прабіў лядок у палонцы і скокнуў туды з галавой. Пасля яго палез Сяргей Нядбальскі. Калі адчуў нагамі дно, нырнуў. Але ледзяная крынічная вада здалася на дзіва цёплай. Затым была чарга Віктара Марозава, якому вадзіца таксама падалася цёплай. Усе, хто лез з палонкі, сталі на дошчачках і абсыхалі на марозе, падпарадкоўваючыся парадам айца Арсенія, які сказаў, што выціраццa пасля святой крыніцы нельга. Аднак на марозе, як ні дзіўна, холаду ніхто не адчуваў. Здалося нават горача, хоць мокрыя валасы Віктара прымерзлі да адзення. Апрануўшыся, уступілі месца жанчынам. І тут з-за плота пачуўся лямант, у якім былі адначасова і захапленне, і жах. Гэта Таня Сухадольская адважылася акунуцца ў палонку. «Было страшна, — успамінае Таня, — але ўжо калі Віктар з яго хранічным танзілітам рашыўся на гэта, дык мне і Бог наказаў». Трэба сказаць, што яна храбрылася: у яе таксама была ангіна.

Праўда, усё скончылася добра. Ніхто не адчуваў патрэбнасці зацісці ў цёплае памяшканне, каб пагрэцца. Наадварот, пагулялі па наваколлю. А калі прагаладаліся, падняліся на гару: месца казачнае, маляўнічае. Там разлажылі на снезе коўдру, падсілкаваліся, а сёй-той і па чарцы прапусціў (не грэх пасля такога купання!), пайшлі з тэрмасаў гарбаты. Але расказ гэты быў бы няпоўным, калі б не адно незвычайнае здарэнне, якое адбылося ў той дзень. Калі ехалі на «рафіку» назад (а дарога нябліжкая), раптам заглух матор. Напэўна, з гадзіну прокорпаўся ў ім шафёр, але машына ніяк не заводзілася. Усіх ахапіў страх з-за незайздроснай перспектывы прастаяць на дарозе ў марозную ноч. Тады бацюшка прапанаваў: «Давайце прачытаем малітву». Ён дастаў малітоўнік, адгарнуў патрэбную старонку і пачаў маліцца, а ўсе хорам паўтаралі за ім. І што вы думаеце: пасля малітвы рухавік завёўся амаль адразу. Дзіва ды толькі!

Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ.

## «ВІЦЬБІЧЫ» — ГЭТА СВЯТА!

**«Спявай, Сямёнаўна, дзяўчынка модная, купіла «Віцьбічы», сама галодная!»**

Гэтую прыпеўку, як і яшчэ 40 аналагічных задзірлівых рыфмаваных куплетаў, прысвечаных самаму папулярнаму на Віцебшчыне друкаванаму выданню, апублікавала з нагоды свайго 5-годдзя гарадская газета «Віцьбічы». Чытачы, якіх сёння ў газеты больш як 50 тысяч, ахвотна адгукнуліся на прапанову журналістаў сустрэць юбілей выдання ў танцавальным рытме. А ўголас прапець свае частушкі аўтары лепшых твораў змогуць на традыцыйным дні газеты ў маі са сцэны летняга амфітэатра. Дарэчы, таго самага, дзе праходзіць фестываль «Славянскі базар». І хаця ён зможа ўмясціць толькі дзесятую частку чытацкай аўдыторыі названага выдання, гэта будзе ўсё роўна ў 5 разоў больш, чым сабралася на апошнім дні газеты ў мінулым годзе пад дахам культурна-дзелавога цэнтра ААТ «КІМ».

Аляксандр ТУЛБУСАЎ.

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск | 6.11 | 18.24 | 12.13 |
| Віцебск | 6.00 | 18.14 | 12.14 |
| Магілёў | 6.00 | 18.13 | 12.13 |
| Гомель | 5.55 | 18.12 | 12.17 |
| Гродна | 6.23 | 18.41 | 12.18 |
| Брэст | 6.27 | 18.39 | 12.12 |

**МЕСЯЦ**

Маладзік 19 сакавіка.

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Лазара, Афанасія, Ерма
К. Бэнэдыкта, Любаміра

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Брэсце — 0—2, Мінску, Гродне, Гомелі, Магілёве — 1—3, Віцебску — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя дзве сутак захаваецца воблачнае з праясненнямі, пераважна без ападкаў надвор'е. Тэмпература уначы — 7—12, месцамі да 15 градусаў марозу, удзень — 0—5 градусаў цяпла.

**Медыцынскі прагноз надвор'я на 21 сакавіка**

У бліжэйшыя суткі сінаптычная сітуацыя істотна не зменіцца. Па-ранейшаму паўплене выражаных метэапатычных рэакцый у большасці метэазалежных хворых не чакаецца. Рэкамендацыі па прафілактыцы самаадчування тыя ж: пашырыць фізічную актыўнасць, рабіць прагулкі на свежым паветры, прымаць полівітаміны.

Антаніна КАРОЗА,
навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.




ЗЯЛЁНАЯ ХВАЛЯ

# ВУЧЫЦЕСЯ ПРАГНАЗІРАВАЦЬ

***Майстэрства кіравання — гэта ўменне не толькі кіраваць аўтамабілем, але і прадбачыць дзеянні іншых вадзіцеляў, прагназіраваць узнікненне вострых сітуацый і своечасова прымаць неабходныя меры, каб іх пазбегнуць. Усе ведаюць, што пачынаючыя вадзіцелі пазбягаюць аварый дзякуючы сваёй павышанай асцярожнасці. Такі вадзіцель пастаянна знаходзіцца ў напружаным стане і вымушаны неаслабна кантраляваць амаль кожны свой крок. Аўтаматызму ў кіраванні аўтамабілем у яго яшчэ няма, а адсутнасць вопыту не дазваляе прадбачыць развіццё падзей і на крок наперад.***

Іншая справа — думаючы вадзіцель са стажам. Ён не толькі вядзе сваю машыну, але як бы вядзе тыя машыны, якія знаходзяцца разам з ім на дарозе. Гэта дазваляе яму прадбачыць дзеянні тых вадзіцеляў на некалькі хвілін наперад і маланкава пралічыць магчымыя варыянты развіцця падзей.

Менавіта таму такі вадзіцель рэдка карыстаецца і экстранным тармажэннем. У большасці выпадкаў ён загадзя скідвае скорасць, яшчэ да таго, як наперадзе пачнуць успыхваць стоп-сігналы.

Але нават маючы за плячыма багаты вопыт, трэба разглядаць узнікшую сітуацыю з разлікам на магчымую памылку аднаго ці некалькіх яе ўдзельнікаў. Такі падыход забяспечыць максімальную надзейнасць вашых дзеянняў.

Для нагляднасці прааналізуем сітуацыю, якая найбольш характэрна для гарадскога транспартнага патоку.

Вы пад'язджаеце на аўтамабілі да прыпынку, ад якога толькі пачынае адыходзіць аўтобус, перад якім стаіць няўдала пакінуты грузавік. Дарога прыкладна дзесяць метраў шырынёй і да сустрэчных машын далёка. Пры гэтым узнікаюць перадумовы для развіцця сітуацыі як мінімум у трох варыянтах.

Першы — вы вырашылі з ходу зрабіць абгон аўтобуса, вадзіцель якога прытарможвае і дае вам магчымасць спакойна завяршыць манеўр. Другі — пачаўшы абгон, вы адмаўляецеся ад яго і прыстройваецеся ўслед за аўтобусам, што ад'ехаў ад прыпынку. І трэці — вы ідзяце на абгон, але і вадзіцель аўтобуса працягвае рухацца ўперад, не звяртаючы на вас увагі. Калі вадзіцель аўтобуса ўступае вам дарогу для абгону, адзіная і найбольш магчымая небяспека пагражае з боку пешаходаў. Тыя з іх, хто збіраўся перайсці вуліцу, могуць быць падмануты тармажэннем аўтобуса і паспрабаваць перабегчы перад ім на другі бок. Да гэтага вы і павінны быць гатовы.

Пачаўшы абгон і адмовіўшыся ад яго, вы рызыкуеце, па-першае, тым, што справа месца будзе ўжо занята і што вам прыйдзецца працягваць рух машыны на крайняй левай паласе, па якой набліжаецца сустрэчны транспарт. Па-другое, ваша тармажэнне ў пачатковай фазе абгону можа аказацца зусім нечаканым для вадзіцеля, які накіроўваецца следам і таксама вырашыў абагнаць аўтобус услед за вамі. Менавіта так нярэдка і ўзнікаюць дарожныя сутыкненні.

Трэці варыянт асабліва рызыкоўны. Перш за ўсё трэба мець на ўвазе, што з-за адыходзячага ад прыпынку аўтобуса можа выскачыць пешаход, які ніяк не чакаў сустрэць аўтамабіль, што набліжаецца злева па сустрэчнай паласе. Акрамя таго, калі аўтобус пачне даволі хутка набіраць скорасць, вы, напэўна, не паспееце скончыць абгон і зробіцеся перашкодай для сустрэчнай машыны. Сітуацыя можа ўзмацніцца тым, што нават калі вадзіцель, зразумеўшы цяжкасць вашага становішча, рэзка затармозіць, вадзіцель, што едзе за ім, можа не зразумець, у чым справа, і выйдзе на сустрэчную паласу. Гэта значыць, што канфлікту і ў гэтым выпадку не пазбегнуць. Такім чынам, аналіз паказвае, што адзіна магчымым рашэннем будзе загадзя скінуць скорасць, як толькі вы зразумееце, што аўтобус збіраецца адыходзіць ад прыпынку, і не пачынаць абгону, прыстроіцца ўслед за ім. У гэтым выпадку вам застаецца толькі трымаць пад пастаянным кантролем пешаходаў справа, дзеянні якіх, дзякуючы абзору і невялікай скорасці вашай машыны, не павінны быць для вас нечаканымі. Калі вы зможаце прагназіраваць розныя сітуацыі на дарозе, вы будзеце вальней адчуваць сябе за рулём машыны, якая рухаецца ў транспартным патоку.

# У ВАННЕ ПАД АЎТАМАБІЛЕМ

**Уладальнікі гаражоў ведаюць, наколькі складана зрабіць добрую яму для агляду і рамонту аўтамабіля. Вядома, выкапаць яе не вельмі цяжка, але яму трэба замацаваць цэглай ці бетонам, паклапаціцца аб гідраізаляцыі. Гэтых цяжкасцей можна пазбегнуць, калі выкарыстаць параду, надрукаваную ў англійскім часопісе «Practical Householder».**

Там прапануюць у якасці асновы выкарыстаць старую ванну, як гэта паказана на малюнку.



# ЗАМЕСТ ГЕРМЕТЫКА

**Калі вы прабілі кола, а ні «запаскі», ні герметыка няма, не хвалюйцеся.**



Набярыце ў аўтамабільную помпу вады і заліце яе ў кола. Потым напампуйце кола — і можаце рухацца наперад. Ад цэнтрабежнай сілы вада расцячэцца і добра выканае ролю герметыка. Гэта дапаможа вам даехаць да гаража, але потым кола ўсё роўна трэба клеіць.

# СА СТАРЫХ РЭЦЭПТАЎ

**У аўтамабілі ёсць гайкі з капронавымі ўстаўкамі, якія ствараюць павышанае трэнне, перашкаджаюць самавыкручванню.**

Калі ў час рамонту такая гайка згубілася, бядаваць не трэба. Разьбовы стрыжань трэба абкруціць палоскай поліэтылену, адрэзанай ад якога-небудзь пакета, а затым накруціць звычайную гайку. Жадаемы эфект павышанага трэння будзе дасягнуты.



**Ёсць у машыне ўсялякія няручныя месцы, дзе падтрымаць закручваемы вінт ніяк не ўдаецца: вельмі цесна, каб падсунуць пальцы. Трэба прымяняць розныя хітрасці.**

Па-першае, можна прыляпіць вінт пры дапамозе кавалачка пластыліну ці кіту. Па-другое, можна злучыць галоўкі вінта і джала адвёрткі кавалкам гумавага шланга. І яшчэ. Стрыжань вінта абхопліваюць канцом дроту, але толькі ў адзін абарот і не закручваючы. Трымаючы за дрот, накіроўваюць у разьбовую адтуліну, а пасля таго, як вінт закручаны даволі глыбока, дрот здымаюць.



**Разьба свечкі запальвання часта прыгарае, прычым даволі моцна, а «сілавыя прыёмы» пры адкручванні могуць прывесці да пашкоджання нарэзкі ў алюмініевай галоўцы цыліндра.**

Каб гэтага не здарылася, перад тым як укруціць свечку, яе разьбу трэба змазаць мяккім алоўкам, накладваючы тым самым ахоўны слой графіту.



**Пры аглядзе аўтамабіля знізу аднойчы выяўляецца, што ніжняя частка картэра аднаго з агрэгатаў (рухавік і г. д.) пакрыта маслам. Адкуль яно падцякае — зразумець цяжка, нават калі выцерці картэр насуха.**

Калі прыпудрыць паверхню талькам (для гэтага зручна выкарыстоўваць дзіцячую прысыпку, якая пры націску на пластыкавы слоічак вылятае ў выглядзе пылу), адразу будуць вельмі добра бачны ўсе трэшчыны.

Медныя ўшчыльнікавыя пракладкі з часам робяцца цвёрдымі і не забяспечваюць герметычнасці злучэння. Калі пракладка не пашкоджана, яе дастаткова напаліць дачырвана, а затым астудзіць на адкрытым паветры. Медная пракладка зноў стане мяккай.

**Вядучы рубрыкі Уладзімір НАЗАРАЎ.**


## ОАО «МЕХКОЛОННА № 93» сообщает: ОЧЕРЕДНОЕ СОБРАНИЕ АКЦИОНЕРОВ

**22 апреля 1996 года в 11 часов в зале заседаний по адресу: г. Минск, п/у Колядичи, ул. Бабушкина, 19.**

**ПОВЕСТКА ДНЯ:**

1. Отчет правления о деятельности за 1995 год.
2. Отчет дирекции о производственно-финансовой деятельности общества за 1995 год и утверждение плана деятельности общества и его экономического обоснования в образовании и распределении чистой прибыли в 1996 году.
3. Утверждение годового отчета и баланса ОАО «МК-93» за 1995 год.
4. Отчет и заключение Ревизионной комиссии о деятельности за 1995 год.
5. Изменение уставного фонда ОАО «МК-93».
6. Изменение и дополнение Устава ОАО «МК-93».
7. Создание дочернего предприятия и утверждение его Устава.
8. Определение размера субсидий работникам МК-93 для оплаты по выделенным квартирам в 1996 году.
9. Изменение и дополнение в Положении об оплате труда в ОАО «МК-93».
10. Определение размеров вознаграждения членов правления.
11. Выборы членов правления на последующий период.
12. Выборы членов ревизионной комиссии на последующий период.

**ОАО «Мехколонна № 93».**


## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 21 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **Тыдзень тэлебачання Малдовы 8.15** «Зорка ўзышла». Відэафільм. **8.50** «Бужарэл», «Крывы», «Тындалэ і Пэкалэ». Мультфільмы. **9.20** «Эпітафія цыгарэце». Дак. фільм. **9.40** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял. **10.35** «Будзьце здаровы». **10.45** «Афрыканскае паляванне». Дак. фільм. **11.30** «Пра Ксюшу і Камп'юшу», «Замочак з сакрэтам». Мультфільмы. **12.10** Па вашых просьбах. «Залатое цяля». Шырокаэкранны маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. **15.00** Навіны. **15.15** «Пяць выкрадзеных «манахаў». Маст. фільм для дзяцей. **16.35** «Мне сніўся сад». Дак. фільм. **16.45** Тэлеанонс. **16.50** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.20** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Правінцыя. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Як жывеш, выдавецтва?» Тэленарыс. **18.10** Тэлеанонс. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял. **20.05** «Кантрасты». Прававая праграма. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Лучафэрул». Маст. фільм. 2-я серыя. **23.50** «Нітка Арыядны». Тэл. дак. фільм. **24.00** Навіны. **0.15** «Крок». Праграма для моладзі.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца. **8.00** Навіны. **8.15** «Сакрэт трапіканкі». **9.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. «Ювентус» (Італія) — «Рэал» (Мадрыд, Іспанія). **11.00** Навіны (з сурдаперакладам). **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам міру». **11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 2-і. 2-я серыя. (Па магчымасці рэклама паміж перадачамі 2 хвіліны.) **13.10** «Т. С. Н.» («Тэлевізійная служба навін»). **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Прыгоды ў Адысеі». **14.40** Лего-го! **15.10** Цін-Тонік. **15.35** «Элен і хлопцы». **16.00** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Парнае катанне. Адвольная праграма. Перадача з Канады. **17.00** Навіны. **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** Латамільён. **19.05** «Адзін на адзін». **19.45** «Спакойнай ночы, малышы!» **19.55** Рэклама. **20.00** Час. **20.40** Праграма перадач. **20.45** Роджэр Мур у баевіку «Захоп у Паўночным моры». **22.30** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Парнае катанне. Адвольная праграма. Перадача з Канады. **23.20** Навіны. **23.30** «Чорны трохкутнік». 2-я серыя да **1.35**. **Канал «Расія» 9.00** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі. **10.20** Міліцэйская хроніка. **10.30** Музычны экспромт. **10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял (Канада). **11.15—11.30** Рэпартажы з месцаў. **15.05** Свята кожны дзень. **15.15** Там-там навіны. **15.30** Кенгуру. **16.20** Новая лінія. **16.50** Танц-экспрэс. **17.05** Залатая візітка. **17.25** Арт-абстрэл. Алёна Свірыдава. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **20.30** «Нос». Гумарыстычная праграма. **21.05** На палітычным Алімпе. **22.30** Футбол. Кубак кубкаў. 1/4 фіналу. «Рапід» (Вена) — «Дынама» (Масква). У перапынку — экран крымінальных паведамленняў. **0.30** Рака часу. **0.35--0.40** Аўтаімгненне.

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ. **12.10** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Хуткая дапамога. **13.40** Парады садаводам. **13.50** Рэцэпт. **14.10** «Пакорлівая». Маст. фільм. **15.20, 16.25, 20.00** Музычны момант. **15.40** «Нямецкая хваля». **16.00** Стыль жыцця. **16.15** «Аляксандраўскі парк». Тэлефільм. **16.30** «Пахуліганім». Перадача для дзяцей. **17.00** Па ўсёй Расіі. **17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** Спартыўныя навіны. **18.55** «Першае каханне». Серыял. **19.50** Тэлеслужба бяспекі. **20.05** С. Мрожак. «Чарадзейная ноч». Тэлеспектакль. **20.55** «Залаты Цялец». Забаўляльная праграма. **22.00** Спорт, спорт, спорт... **22.20** Дзень нараджэння. **22.30** «Асабовая справа». **23.00—24.00** «Я прыйшоў на спатканне з вамі». Жорж Брасанс. Дак. фільм (Францыя).

### Расійскія універсітэты

**9.30** Падарожжа ў краіну іспанскай мовы. 1-ы і 2-і гады навучання. **10.30** СІВ. Навіны. Асацыяцыя «Наша кіно» прадстаўляе. **10.35** АРІОС. **11.30** У рабочы поўдзень. **12.30** Гадзіна «Рэаліста». **13.30** СІВ. Навіны. **13.35** «Два багатыры». Мультыплікацыйны фільм. **13.45** Крыніцы. **14.15** «Бумбараш». Маст. фільм. 1-я серыя. **15.20** «Маскоўскія Пенаты». Мікалай Кетчэр. **15.45** Новая пачатковая школа. **16.15** Цішыня № 9. **16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 104-я серыя (ЗША). **17.30** Паўгадзіны пра тэніс. **18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. **18.35** Герой дня. **19.00** Рэгулярныя матчы НХЛ. «Таронта»—«Дэтройт». **21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. **21.35** Гадзіна серыяла. «Суіні — падраздзяленне хуткага рэагавання». 3-я серыя (Вялікабрытанія). **22.30** Часінка. **23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск. **23.20**—1.40 Кіно не для ўсіх. Вудзі Ален. Маст. фільм «Брадвей Дэнні Роуз» (ЗША).






*Ад усяго сэрца віншуем з юбілеем дарагую матулю і жонку Ніну Сцяпанаўну БАСЯНОК. Жадаем моцнага здароўя, даўгалецця і шчасця ў жыцці.*

*Муж, дзеці.*


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.



**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 142.400 Індэкс 63850.**
**Зак. № 1416.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**